# Трэці сектар

## У нумары




**Інфармацыйны грамадзка-аналітычны часапіс.** Заснаваны ў 1997 годзе. Заснавальнік - Грамадзкае аб'яднаньне «Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў «Трэці сектар». Пэрыядычнасьць - па меры назапашваньня матэрыялаў. Друкуецца ў беларускай мове. Распаўсюджваецца бясплатна на правох унутранай дакумэнтацыі. Выдадзены ў межах праекту «Адкрытасьць. Інфармаванасьць. Дыялёг». Пры перадруку просім рабіць спасылкі на «Трэці сэктар». Рэдактар Валера Руселік. Рэдактар нумару Сяргей Кузьняцоў. Тэхнічны рэдактар Аляксей Салей. Удзел у працы над нумарам бралі Вітаўт Руднік, Алеся Бяленік, Волька Астроўская, Лана Руднік, Мікола Таранда. Фотамантаж на старонцы 24 выканала Яна Цыдзік.



**Адрас рэдакцыі: а/с 54, 230009, Гродна, Беларусь.**

**тэл./факс: +375 (152) 96-74-78**

**e-mail: trecisektar@yahoo.com**

**www-пляцоўка: http://sektar.cjb.net**



Падпісана ў друк 29.11.2004 г. Фармат выданьня - 205x287. Папера афсэтная. Гарнітура FreeSet 10.

Друк афсэтны. Умоўны друкарскі аркуш 3,5. Улікова-выдавецкія аркушы 3,29.

Наклад 299 ас.

№ 6 (36), лістапад'2004.





Надрукавана ўва УП «РОТАПРИНТ».

220034 г. Менск, вул. Платонава, 10-109.

Ліцэнзія № 02330/0133156 ад 30.04.2004 г.

Замова № 109 ад 17.11.2004.




Фота з архіву Наталі Хацько

# Каб не забыцца пра галоўнае...

**Пачуўшы афіцыйныя вынікі чарговых выбараў ці рэфэрэндуму, адныя з нас шчыра зьдзіўляюцца лічбам і цьвердзяць пра жудасныя фальсыфікацыі. Іншыя папросту злосна адмахваюцца: ат, маўляў, у нас людзі такія, што інакш прагаласаваць і ня могуць, а калі могуць, то ўсялякі падман сьцерпяць, змаўчаць.**

Людзі як людзі. Гэткія самыя, як, прыкладам, украінцы...

Дзіўная і адначасова непрыемная тэндэнцыя назіраецца апошнім часам у беларускім трэцім сэктары. Кола тых, на каго ўласна й накіраваная дзейнасьць НГА, няўхільна звужваецца. Безумоўна, нельга ня ўлічваць вонкавых фактараў, якія адмоўна ўплываюць на грамадзкі сэктар: ціск на арганізацыі і разнастайныя перашкоды з боку ўладаў, звужваньне магчымых крыніц фінансаваньня, неразуменьне з боку звычайных абываталяў і г.д.

Але нельга забывацца і пра нутраныя фактары, адным зь якіх зьяўляецца... самаізаляцыя беларускіх НГА. Падзел на "нашых" і "ня нашых", калі ў сэмінарах, канфэрэнцыях, абменах і іншых мерапрыемствах усё часьцей удзел бярэ толькі вузкае кола "сваіх", калі інфармуюцца толькі "свае", дапамагаюць толькі "сваім", супрацоўнічаюць толькі з... Ну, вы здагадаліся.

А потым нечакана для самых сябе зьдзіўляемся, калі ня можам патлумачыць «ня нашым», чым і дзеля чаго мы ўласна займаемся.

Бяда ў тым, што мы забываемся пра адну з найважнейшых функцыяў, якую й пакліканы выконваць трэці сэктар, – фармаваньне мясцовае супольнасьці людзей, здольных самаарганізоўвацца дзеля разьвязаньня ўласных праблем уласнымі намаганьнямі. І чым больш гэткая супольнасьць будзе, тым лягчэй дасьць рады якім заўгодна праблемам.

Пэўна, ужо самы час узгадаць адзін стары як сьвет заклік: "Ідзеце ў людзі". Што Вы на гэта?

**Рэдактар**



**❖Варта зацеміць**

# Думай глябальна – дзейнічай лякальна

## Яшчэ раз пра разьвіцьцё мясцовых супольнасьцяў

**Ідэя напісаньня гэтага матэрыялу паўстала ў час беларуска-польскай канфэрэнцыі "Інавацыйныя мэтады працы на карысьць мясцовай супольнасьці", якая ладзілася ў сярэдзіне лістапада ў Гародні. Сустрэча, удзел у якой бралі прадстаўнікі больш як 30 арганізацыяў зь Беларусі і Польшчы, сталася добрай нагодай для падсумаваньня зробленага ў нашай краіне (і ня толькі ў ёй) у справе разьвіцьця мясцовых супольнасьцяў, паразважаць пра праблемы і пэрспэктывы працы ў гэтым кірунку.**

**Гаворка ў прапанаваным аглядзе пойдзе пра тое, чым ёсьць мясцовая супольнасьць, што азначае разьвіваць яе, і, у рэшце рэшт, пра тое, як гэта робіцца сёньня ў Беларусі і ў некаторых іншых краінах.**

### Я сусед, і ты сусед – разам мы супольнасьць

Пад мясцовай супольнасьцю прынята разумець групы людзей, якія жывуць на адной тэрыторыі (вёска, мікрараён, невялікае мястэчка). Звычайна, гэта людзі, якія ходзяць па адных і тых самых вуліцах, зьвяртаюцца ў адныя і тыя самыя ўстановы, сустракаюцца на прыпынках грамадзкага транспарту альбо ў агульных месцах адпачынку, адчуваюць у большай альбо меншай ступені наступствы адных і тых самых праблем, характэрных для дадзенай мясцовасьці.

Разьвіваць гэткія супольнасьці азначае разьвіваць патэнцыял гэтых людзей, ствараць магчымасьці для таго, каб людзі праяўлялі ініцыятыву, дзейнічалі калектыўна дзеля разьвязаньня тых праблем, якія іх хвалююць, для задавальненьня агульных інтарэсаў.

Разьвіцьцё супольнасьці мае таксама на мэце ўмацаваньне грамадзкіх сувязяў, выпрацоўку ў людзей упэўненасьці ў сваіх сілах, узбагачэньне людзей ведамі і ўменьнямі, з дапамогай якіх яны самастойна змогуць паляпшаць якасьць жыцьця ў сваім асяродзьдзі.

Галоўным элемэнтам працэсу разьвіцьця мясцовай супольнасьці зьяўляюцца ўдзел грамадзянаў у абмеркаваньні і прыняцьці рашэньняў ворганамі ўлады (звычайна на мясцовым узроўні), а таксама ўдзел у дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў і іншых інстытутаў грамадзянскай супольнасьці (гаворка пра іх пойдзе ніжэй), дзейнасьць якіх скіраваная на разьвязаньне мясцовых праблем і задавальненьне інтарэсаў мясцовага насельніцтва.

### Разам крок за крокам

Ініцыятарам грамадзкага ўдзелу могуць быць як канкрэтныя асобы, гэтак і розныя інстытуты грамадзтва.

Гэта будзе залежыць ад сутнасьці праблемы, ад ступені пільнасьці яе разьвязаньня, пазыцыі насельніцтва й мясцовых уладаў па гэтым пытаньні. Ініцыяваць актыўныя дзеяньні могуць самыя жыхары, якія добра бачаць, што робіцца на іх вуліцы, альбо мясцовыя грамадзкія арганізацыі. Ініцыятарам сацыяльных перамен можа выступіць школа альбо канкрэтны дэпутат. Найважнейшым, аднак, зьяўляецца ня тое, хто стане ініцыятарам, а тое, наколькі здольны ён будзе арганізаваць выяўленьне праблем, якія хвалююць людзей, вызначыць разам з гэтымі людзьмі, якім будзе вынік разьвязаньня гэтых праблем, ці хопіць яму сіл і цярпеньня, каб выслухаць і прыцягнуць да сумеснай дзейнасьці тых, хто можа паўплываць на разьвязаньне праблем.

Працэс дзеяньняў па ўключэньне людзей у працэс паляпшэньня якасьці жыцьця ў сваёй мясцовасьці добра адлюстроўвае мадэль сацыяльнага дзеяньня. Гэтая мадэль складаецца з наступных кампанэнтаў:

- **вызначэньне і ўдакладненьне сутнасьці праблемы** разам зь людзьмі, зацікаўленымі ў яе разьвязаньні (Што?);
- **аналіз праблемы** разам зь людзьмі, зацікаўленымі ў яе разьвязаньні (Чаму?);
- **сумеснае плянаваньне дзеяньняў,** накіраваных на разьвязаньне праблемы (Як?);
- **ажыцьцяўленьне дзеяньняў** з удзелам зацікаўленых у разьвязаньні праблемы людзей (Дзеяньне);
- **сумесная ацэнка эфэктыўнасьці дзеяньняў,** дасягнутых вынікаў (Ацэнка).

Далей, аднак, засяродзімся на розных формах стымуляваньня ўдзелу грамадзянаў у разьвязаньні ўласных праблем і разьвіцьці мясцовай супольнасьці.




**Мадэль сацыяльнага дзеяньня**

### Найперш – зьмены ў сьвядомасьці

Цяжка спадзявацца на актыўны і масавы ўдзел людзей у разьвязаньні ня толькі грамадзкіх, але часам і ўласных праблем у краіне, дзе не адно пакаленьне (у тым ліку й сёньняшняе) гадавалася ў атмасфэры сьляпой веры ў Добрага цара, Добрую Партыю (працягніце лягічны ланцужок далей самастойна), страху пакараньня за праяву ўласнай актыўнасьці якога заўгодна кшталту.

Найпершай задачай у гэткіх умовах зьяўляецца як мага шырэйшае інфармаваньне людзей пра тое, што яны самі здольныя й павінны браць удзел у разьвязаньні сваіх праблем. Суседнія з нашай краіны (Латвія, Летува, Польшча і ў меншай ступені Расея ды Украіна) сёньня з посьпехам адаптавалі многія інструманты павышэньня грамадзкай актыўнасьці праз інфармаваньне, якія спраўдзілі сябе раней на Захадзе.

***Цэнтры эўрапейскай інфармацыі***

Сетка гэткіх пунктаў узьнікла ў суседняй Польшчы і іншых посткамуністычных краінах напярэдадні іх уступленьня ў Эўразьвяз. Мэтай дзейнасьці падобных цэнтраў зьяўляецца інфармаваньне насельніцтва пра тое,

што такое Эўразьвяз, якія магчымасьці дае краіне і яе грамадзянам сяброўства ў ЭЗ, як скарыстаць з розных праграм падтрымкі, якія зьдзяйсьняе Эўразьвяз і г.д.

***Эўрадэск – інфармацыйныя цэнтры для моладзі з краін Эўразьвязу***

Карыстальнікі гэтага рэсурсу могуць атрымаць інфармацыю пра мясцовыя грамадзкія арганізацыі і магчымасьці ўдзелу ў іх дзейнасьці, зьвесткі пра адменьнікі падарожжа па кантынэнце (на чым і як таньней ехаць, дзе можна знайсьці танны начлег), працаўладкаваньня й навучаньня ў межах Эўразьвязу. Іншымі прыкладамі інфармацыйных цэнтраў зьяўляюцца спэцыялізаваныя інфармацыйныя цэнтры для жанчын, дзяцей і моладзі і г.д.

***Тэлекатэджы***

Рух тэлекатэджаў, які распачаўся ў Скандынавіі, сёньня хутка распаўсюджваецца ў іншых частках Эўропы. Напачатку тэлекатэджы ўяўлялі зь сябе дамы, абсталяваныя сучаснымі сродкамі сувязі і аргтэхнікай, якую магло выкарыстоўваць мясцовае насельніцтва для навучаньня, камунікацыі, рэалізацыі нейкіх праектаў у сацыяльнай сфэры. У Эстоніі і Вугоршчыне тэлекатэджы ўяўляюць зь сябе пункты, дзе сабраная актуальная інфармацыя пра працу мясцовых уладаў, магчымасьці атрыманьня кансультацыяў і іншай дапамогі зь іх боку. Падобнага кшталту тэлекатэджы зьяўляюцца своеасаблівым грамадзкім офісам для мясцовай супольнасьці, месцам, дзе зьбіраецца і зь якога распаўсюджваецца важная для людзей інфармацыя. Іншымі словамі, гэта ўнікальны шматфункцыйны сэрвісны цэнтар, заснаваны на сучасных тэхналёгіях, які абапіраецца на інтэлектуальны патэнцыял мясцовага насельніцтва і служыць для задавальненьня патрэбаў гэтых людзей у інфармацыі, эканамічным і культурным разьвіцьці мясцовасьці.



Падобную ролю ў будучыні павінны выконваць Публічныя інфармацыйныя пункты (ПІПы), стварэньне якіх распачалося сёлета на Гарадзеншчыне зь ініцыятывы грамадзкіх аб'яднаньняў "Цэнтр "Трэці сектар"" і "ВІТ" (гл. "ТС" № 33).

***Грамадзкія слуханьні***

Яшчэ адным цікавым інструмантам падвышэньня інфармаванасьці (і, як вынік, сацыяльнай актыўнасьці) насельніцтва зьяўляюцца грамадзкія слуханьні па актуальных для дадзенай мясцовасьці пытаньнях.

Прыкладамі падобных слуханьняў могуць быць адкрытыя грамадзкія слуханьні па пытаньнях будаўніцтва ГЭС на Нёмане, праведзеныя грамадзкім аб'яднаньнем "Цэнтр "Трэці сектар"" у чэрвені 2001 году. Гэтае мерапрыемства сталася пачаткам сапраўднай дыскусіі, якая разгарнулася на старонках і ў этэры як мясцовых, гэтак і агульнакраёвых СМІ. Зусім нядаўні прыклад – грамадзкія слуханьні, праведзеныя беларускімі эколягамі па пытаньнях стварэньня Нацыянальнага парку "Белая Русь" у Лагойскім раёне Меншчыны.

## Грамадзкія клюбы – першы блін, які не адхапіў сабака

У той час, як суседнія з нашай краіны ўжо поўнаю хадою рухаюцца да падвышэньня ўдзелу грамадзянаў у грамадзкім жыцьці, Беларусь робіць толькі першыя крокі ў гэтым кірунку. Пра сыстэмную працу па разьвіцьці мясцовых супольнасьцяў у нашай краіне можна казаць, пачынаючы з канца 2002 году, калі ў Смаргонях, Горках і Жодзіне былі створаныя першыя ў краіне Грамадзкія клюбы. Пачынальнікам і натхняльнікам руху па стварэньні гэных клюбаў была Праграма "Альянс Партнэрства Каўнтэрпарт" (САР), якая зьдзяйсьнялася прадстаўніцтвам амэрыканскай карпарацыі "Counterpart International" у Беларусі. Супрацоўнікамі праграмы *(аўтар матэрыялу быў у іх ліку – **заўв. рэд.**)* было выпрацаванае вызначэньне Грамадзкага клюбу як формы добраахвотнага супрацоўніцтва інстытутаў грамадзянскай супольнасьці і грамадзянаў, у межах якога ажыцьцяўляецца каардынацыя іх дзейнасьці па разьвязаньні прыярытэтных мясцовых праблем ува ўзаемадзеяньні зь дзяржаўнымі ворганамі і ўстановамі. Зазначым, што Грамадзкія клюбы сапраўды зьяўляюцца толькі формай супрацоўніцтва, а ня новай незарэгістраванай арганізацыяй, як гэта трактавалі асобныя чыноўнікі.

За тры гады пры падтрымцы САР Грамадзкія клюбы былі створаныя ў Барысаве, Жодзіне, Менску (мікрараён "Захад"), Вілейцы, Мачулішчах, Слоніме, Барані, Кобрыне, Асіповічах, Смаргонях, Горках, Рагачове, Рэчыцы, Жлобіне, вёсцы Камарова на Мядзельшчыне, Гародні. Не ўва ўсіх з гэтых месцаў і мястэчак клюбы прыжыліся: дзесьці з-за рэзка нэгатыўнага стаўленьня мясцовых уладаў і спэцслужбаў, дзесьці з-за негатоўнасьці мясцовых грамадзкіх лідараў дамаўляцца міжсобку. Але там, дзе клюбы прыжыліся (а гэта палова ад названага вышэй сьпісу), іх роля сапраўды была надзвычай пазытыўнай. Дзясяткі праектаў, рэалізаваных у "клюбных" месцах, былі накіраваныя на разьвязаньне гэткіх праблем, як беспрацоўе, недахоп месцаў для адпачынку, распаўсюджаньне разнастайных шкодных звычак і залежнасьцяў сярод моладзі, ізаляцыя людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі, кепскі стан пітной вады і г.д. Усе гэтыя праекты зьдзяйсьняліся ў партнэрстве (грамадзкая арганізацыя – грамадзкая арганізацыя, грамадзкая арганізацыя – дзяржаўная ўстанова) і засьведчылі, што грамадзкія арганізацыі здольныя быць годнымі партнэрамі і ў стане прыцягваць інвэстыцыі ў разьвязаньне сацыяльна-значных праблем.

Сёлета да згаданага сьпісу "клюбных" месцаў меліся далучыцца Берасьце, Наваградак, Ліда ды яшчэ колькі населеных пунктаў. У кастрычніку, аднак, пастановай беларускага Міністэрства замежных справаў дзейнасьць Прадстаўніцтва "Counterpart International" у нашай краіне была забароненая. Зараз беларускія Грамадзкія клюбы знаходзяцца на этапе найцяжэйшых выпрабаваньняў. Пры адсутнасьці магчымасьцяў для атрыманьня грашовай падтрымкі на рэалізацыю новых праектаў, ува ўмовах яшчэ большага ціску з боку мясцовых уладаў на актывістаў грамадзкага (падкрэсьлю, грамадзкага, а не палітычнага) руху неабходна ня проста выжыць, але й даказаць, што абраны шлях на кансалідацыю мясцовай супольнасьці ня быў памылковым.

## Ня клюбам адзіным

Формы супрацоўніцтва, падобныя да беларускіх Грамадзкіх клюбаў, ёсьць і ў нашых найбліжэйшых суседзяў. У Латвіі гэта Партнэрствы, якія зь 2001 году ствараліся на базе тамтэйшых сельскіх абшчын, ува Ўкраіне – гэта Громады. У Расеі ў многіх месцах рэальна дзейнічаюць разнастайныя каардынацыйныя грамадзкія Рады, да голасу якіх прыслухоўваюцца мясцовыя ўлады.

У шэрагу іншых інструмантаў удзелу грамадзянаў у разьвіцьці мясцовай супольнасьці назавем яшчэ два, якія даўно ўжо спраўдзілі сябе ў іншых краінах: групы самадапамогі і грамадзкія цэнтры.

***Група самадапамогі*** – гэта калектыў людзей, задзіночаных агульнай жыцьцёвай праблемай альбо сытуацыяй. Гэта можа быць кранічнае захворваньне альбо залежнасьць, ад якой удзельнікі групы хочуць пазбавіцца. Гэта можа быць перажытая ўдзельнікамі асабістая трагедыя, псыхалягічныя наступствы якой яны хацелі бы пераадолець. Гэта можа быць сытуацыя непрыманьня з боку грамадства й патрэба адстойваць свае правы. Зазвычай, у групы ўзаемадапамогі задзіночваюцца альбо непасрэдна людзі, якія церпяць ад нейкай сур'ёзнай праблемы, альбо іх сваякі ці сябры. Удзельнікі групы дзеляцца сваімі пачуцьцямі й назапашаным досьведам, разам шукаюць спосабы паляпшэньня сытуацыі. Гэткія групы кіруюцца самімі ўдзельнікамі, якія самастойна прымаюць рашэньні і ажыцьцяўляюць іх на практыцы дзеля таго, каб дапамагчы адзін аднаму адолець наступствы актуальных для іх праблем.

Прыкладамі падобных груп зьяўляюцца групы ананімных алькаголікаў (адна зь іх ужо некалькі гадоў існуе ў Гародні), ананімных наркаманаў альбо людзей, якія жывуць з ВІЧ/СНІД. Сёлета ў кастрычніку мне давялося пазнаёміцца з працай шэрагу аналягічных груп у суседняй Украіне. Вынікам іх працы сталі тысячы выратаваных жыцьцяў. Людзі, якія працуюць з падобнымі групамі, уласным прыкладам сьцьвярджаюць, што можна вырвацца з пастак рознага кшталту залежнасьцяў і жыць паўнавартасным жыцьцём.

Своеасаблівай групай самадапамогі зьяўляўся "Клюб адзінокіх сэрцаў", які ў канцы 90-х стварыўся на Берасьцейшчыне (здаецца, у Бярозе) дзеля таго, каб людзі, якія пачуваюць сябе адзінокімі, маглі сустракацца і гэткім чынам змагацца з адзінотай.

Яшчэ адна форма задзіночваньня людзей з падобнымі праблемамі – ***гэта грамадзкія цэнтры (community centers).***

Грамадзкія арганізацыі – гэта арганізацыі, якія прапануюць шырокі набор сацыяльных паслугаў для розных груп насельніцтва. Існуюць цэнтры для жанчын, якія пацярпелі ад гвалту, бяздомных, нарказалежных і г.д. Таксама, ува Ўкраіне ўжо колькі гадоў эфэктыўна працуюць створаныя грамадзкімі арганізацыямі грамадзкія цэнтры для людзей з ВІЧ/СНІД. Кліенты гэткіх цэнтраў атрымліваюць паслугі па сацыяльным суправаджэньні, атрыманьні лекаў, псыхалягічнай дапамозе. На базе цэнтраў працуюць розныя клюбы па інтарэсах для залежных і іх сваякоў.

У Польшчы каторы год запар дзейнічае сетка ***Цэнтраў мясцовай актыўнасьці*** (далей – ЦМА) *(Centry Aktywności Lokalnej – **заўв.рэд.**)*. Як і беларускія Грамадзкія клюбы, ЦМА зьўляюцца ня новымі арганізацыямі, а мэтадам прыцы дзеля паляпшэньня якасьці жыцьця ў мясцовых супольнасьцях. ЦМА ў Польшчы базуюцца, зазвычай, на базе Дамоў культуры і цэнтраў сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва. Ёсьць, аднак, і выпадкі, дзе падобная форма працы выкарыстоўваецца на базе мясцовых грамадзкіх арганізацыяў. Сутнасьць ЦМА палягае на тым, каб мясцовае насельніцтва й мясцовыя актывісты грамадз-




кага руху мелі больш магчымасьцяў для развіцьця свайго патэнцыялу, рэалізацыі сваіх ініцыятываў. Гэтак, грамадзкія аб'яднаньні праз ЦМА могуць атрымаць памяшканьні для офіса альбо для сустрэч, доступ да Інтэрнэту і базаў зьвестак. Дарослыя і моладзь у памяшканьнях Дамоў культуры, якія працуюць як ЦМА, займаюцца ў разнастайных клюбах па інтарэсах, ладзяць для сябе і іншых разнастайныя імпрэзы. Дзеля падрыхтоўкі людзей для працы паводле мэтаду ЦМА існуе адмысловая доўгатэрміновая навучальная праграма.

## Дабрачыннасьць – гэта рэальна

Яшчэ адным інструмантам развіцьця мясцовай супольнасьці зьяўляюцца Фонды развіцьця мясцовай супольнасьці. У адрозьненьне ад Грамадзкіх клюбаў, гэта зарэгістраваныя арганізацыі. Галоўнай мэтай дзейнасьці апошніх зьяўляецца збор і распаўсюджваньне сродкаў, якія павінны быць накіраваныя на развязаньне важных для дадзенай мясцовасьці праблем. Атрымальнікамі грантаў ад гэткіх фондаў на спаборавай аснове могуць выступаць грамадзкія, камэрцыйныя й дзяржаўныя арганізацыі.

Пра гісторыі развіцьця падобных фондаў у Польшчы ў часе канфэрэнцыі распавядаў кіраўнік Мясцовага фонду ў Голдапе (мястэчка з 14 тысячамі жыхароў на самай мяжы з Калінінградзкай вобласьцю Расейскай Фэдэрацыі) Зьбігнеў Меруньскі.

Як адзначае сп. Зьбігнеў, першыя фонды ў Польшчы былі створаныя ў 1999 годзе з ініцыятывы Акадэміі развіцьця філянтропіі. Сёньня мясцовыя фонды дзейнічаюць у 17 польскіх местах і мястэчках. У 2001 годзе была створаная агульнакраёвая сетка Мясцовых фондаў.

Польскія фонды выкарыстоўваюць разнастайныя мэтады збору грошай для сваіх грантавых праграм: індывідуальныя перамовы з патэнцыйнымі ахвярадаўцамі, дабрачынныя аўкцыёны і канцэрты, лятэрэі, грамадзкія кампаніі па збору сродкаў, удзел у агульнапольскіх і міжнародных спаборах грантаў.

Амаль усе польскія Мясцовыя фонды ладзяць спаборы на атрыманьне стыпэндыяў для таленавітых дзяцей і моладзі зь небагатых сем'яў. Найчасьцей з сродкаў мясцовых фондаў фінансуюца праекты ў наступных галінах: культура, адукацыя, спорт і турызм, ахова навакольнага асяродзьдзя і сацыяльная дапамога.

За апошнія тры гады дзейнасьці польскія Мясцовыя фонды назапасілі амаль 110 000 $ "жалезнага капіталу" (капітал, які ўкладаецца ў стварэньне й развіцьцё фонду. Фондам дазваляецца выкарыстаньне толькі адсоткаў ад захоўваньня "жалезнага капіталу" ў банках) і больш як 650 000 $ для падтрымкі мясцовых праграм і ініцыятываў. Былі прызначаныя 1626 стыпэндыяў на агульную суму ў 37 700 $ для студэнтаў і школяроў, а таксама 1036 грантаў на агульную суму ў 318 000 $ для мясцовых грамадзкіх арганізацыяў, маладзёвых груп, клюбаў, дамоў культуры, школ ды іншых арганізацыяў і ініцыятываў, якія дзейнічаюць на карысьць мясцовай супольнасьці.

Беларускі досьвед Фондаў развіцьця мясцовай супольнасьці абмяжоўваецца пакуль што толькі стварэньнем першага Фонду ў Смаргонях, які, аднак, дагэтуль аніяк не праяўляе сваёй актыўнасьці (мясцовыя актывісты грамадзкага руху, якія стаялі ля вытокаў стварэньня Фонду, тлумачаць гэта пазыцыяй мясцовых уладаў), а таксама спробамі стварэньня (пакуль што безвыніковымі) у Баранi, Баранавічах і Рэчыцы.

## Ня збочыць з дарогі

Ініцыятарамі развіцьця мясцовых супольнасьцяў у Беларусі сёньня зьўляюцца найперш грамадзкія арганізацыі. Занятак гэты, аднак, няўдзячны: мясцовыя ўлады бачаць у кожнай праяве актыўнасьці спробы "парушыць грамадзкі парадак і стабільнасьць", насельніцтва запалоханае і затурканае жыцьцёвымі праблемамі, бізнэс слаба разьвіты і сацыяльна пасіўны.

Між тым, грамадзтва ў суседніх з нашай краінах ужо зразумела значнасьць грамадзкіх ініцыятываў, іх ролю ў пераадоленьні разнастайных праблем. Да прыкладу, у Летуве зь 1 студзеня 2003 году кожны грамадзянін атрымаў магчымасьць пералічыць 2% свайго падатку на гадавы прыбытак на дзейнасьць якой заўгодна няўрадавай арганізацыі. Падобная сытуацыя ў Вугоршчыне. Крыху больш скупымі ў гэтым сэнсе апынуліся польскія заканадаўцы: сёлета ў РП была ўсталяваная квота ў 1% падобнага кшталту ахвяраваньняў. Але і гэта – паказальнік тэндэнцыі да пашырэньня сфэры ўплыву грамадзкага сэктару, а значыць і саміх грамадзянаў, на жыцьцё грамадзтва і палітыку дзяржавы...

Нам жа ўсім сёньня зычу ня збочыць з абранага шляху, якім бы складаным гэты шлях не здаваўся.

**Вітаўт РУДНІК**
**здымкі з архіву Рэгіянальнага грамадзкага клюбу «Мы разам» (Смаргоні)**



*Валянтэрства можна разглядаць як унёсак, які людзі робяць для дабрабыту сваіх суседзяў, мікраёну і грамадзтва ў цэлым.*

# Ствараем моду на дабрыню!

**Валянтэрскія цэнтры – адзін з найбольш дзейных інструмэнтаў развіцьця мясцовай супольнасьці. Менавіта людзі – самы галоўны рэсурс для правядзеньня зьменаў у грамадзтве. Добраахвотнікі, уцягнутыя ў выкананьне праектаў мясцовай супольнасьці, паступова становяцца больш арганізаванымі і больш паінфармаванымі пра тое, чаго можна дасягнуць шляхам выкананьня валянтэрскіх калектыўных акцыяў, а таксама больш імкнуцца браць на сябе адказнасьць у развязаньні сацыяльных праблем.**

**Пра дзейнасьць ці не адзінага ў Беларусі Валянтэрскага Цэнтру "Крок насустрач!" распавядае мэнэджэрка Цэнтру Наталя Хацько.**

Цэнтар працуе ў межах дзейнасьці Міжнароднага дабрачыннага грамадзкага аб'яднаньня "Надзея-Экспрэс" з 1994 году. Праграму валянтэрства па ўсёй Беларусі нам дапамагаюць развіваць нашыя партнэры: Віцебскі і Магілеўскі абласныя фонды "Міласэрнасьці і здароўя", Гомельскі абласны зьвяз жанчын.

Мэта Цэнтру – развіцьцё валянтэрскага руху ў Беларусі шляхам распрацоўкі і правядзеньня праграм па добраахвотніцтву, ініцыятывы і актыўнасьці людзей у развязаньні сацыяльна-эканамічных праблем.

У сваёй працы мы сутыкаемся з шэрагам праблем. Асноўная зь іх – адсутнасьць закону альбо параграфу ў законе, якія замацоўвалі бы і рэгулявалі асновы валянтэрства ў Беларусі. Недастатковае разуменьне ў грамадзтве сутнасьці й важнасьці валянтэрскай дзейнасьці часта прыводзіць да парушэньня асноўных яе прынцыпаў – добраахвотнасьці і бяскоштнасьці.

Сутнасьць нашай працы палягае на падрыхтоўцы валянтэраў і валянтэрскіх груп. Толькі па Менску Цэнтар каардынуе пра-

цу каля 30 падобных груп і груп самадапамогі, створаных на базе сярэдніх школ, ВНУ, прафэсійных вучэльняў, каледжаў, грамадзкіх арганізацыяў.

***"Сапраўды, каб дапамагаць, не абавязкова быць сябрам нейкай арганізацыі. Але даведацца, дзе больш за ўсё чакаюць тваёй дапамогі й дзе час тваёй прысутнасьці дзейнічае лепш за самы моцны лек, можна толькі ў нашым Цэнтры, дзе ты ўжо не адзін у полі воін адзін"***

**Аксана ТРУХАН,**
**дырэктарка Валянтэрскага цэнтру «Крок насустрач!»**

Валянтэры працуюць з рознымі катэгорыямі насельніцтва: з самотнымі састарэлымі і інвалідамі, зь дзецьмі-інвалідамі ў дзіцячых дашкольных установах, з хворымі ў мэдычных установах, – а таксама працуюць у экалягічным накірунку.

Валянтэры здольныя ўбачыць праблемы мясцовай супольнасьці і хутка аказаць адрасную дапамогу, на што не заўсёды здольныя іншыя структуры.

Праца Цэнтру йдзе ў трох асноўных кірунках:

■ **структурна-каардынацыйны** (пошук існых і стварэньне новых валянтэрскіх груп, а таксама прыцягненьне іх у сетку);

■ **адукацыйны** (праца па павышэньні прафэсійнасьці каардынатараў валянтэрскіх груп праз адукацыйныя праекты, арганізацыю круглых сталоў і правядзеньне сэмінараў);

■ **інфармацыйна-камунікацыйны** (стварэньне адзінай інфармацыйнай прасторы па пытаньнях разьвіцьця валянтэрства праз публікацыі ў СМІ, выданьне брашур, стварэньне бібліятэкі).

Валянтэрскі Цэнтар зьяўляецца арганізатарам і каардынатарам шматлікіх вялікіх дабрачынных акцыяў: "Вясновы тыдзень дабрыні", "Цуды на Калядьі", "Велікодны куліч" і інш.

Добраахвотнікам, якія штодзённа працуюць на месцах, вельмі важна адчуваць сябе часткай валянтэрскага руху раёну, места, краіны, сьвету. Таму мы арганізуем агульныя добраахвотніцкія акцыі.

Традыцыйная і найбуйнейшая нашая акцыя "Вясновы тыдзень дабрыні" ладзіцца чацьверты год запар. У 2001 годзе, далучыўшыся да ініцыятывы расейскіх добраахвотнікаў, Цэнтар выступіў ініцыятарам і арганізатарам гэтай акцыі ў Беларусі. Прыемна, што акцыю падтрымала Міністэрства адукацыі Беларусі. Мэта акцыі простая і адначасова актуальная – зрабіць разам шмат добрых, карысных справаў для тых, хто мае ў гэтым патрэбу.

Да ўдзелу ў акцыі мы традыцыйна запрашаем усіх зацікаўленых асобаў, сацыяльныя і адукацыйныя установы, грамадзкія арганізацыі, клюбы, органы мясцовага самакіраваньня, камэрцыйныя арганізацыі з розных местаў Беларусі. Пляны мерапрыемстваў фармуюцца на падставе мясцовых патрэбаў і магчымасьцяў арганізатараў акцыі.

Некалькі "сухіх" лічбаў за 2004 год, за якімі стаяць канкрэтныя людзі і іх добрыя справы на карысьць разьвіцьця мясцовай супольнасьці: 40 000 чалавек зь 250 арганізацыяў ажыцьцявілі больш за 700 сацыяльна значных мерапрыемстваў. Важна, што да супрацы актыўна прыцягваліся і СМІ. Вынік – 100 нататак, артыкулаў, выступаў па радыё і тэлевізіі, прысьвечаных акцыям "Вясновага тыдня дабрыні".

Яшчэ адна наша цікавая акцыя – "Цуды на Каляды". У межах акцыі мы маем не каардынацыйную функцыю, а самыя прыцягваем валянтэраў, навучаем іх, сумесна ажыцьцяўляем праект. У канцы сьнежня валянтэры, якія папярэдне прайшлі Школу Сьнягурак і Дзедаў Маразоў, наведваюць дзяцей з асаблівасьцямі ў фізычным разьвіцьці й выхаванцаў прытулкаў, імкнучыся кожнае падобнае наведваньне ператварыць у сьвята. У 2004 годзе ў гэтай акцыі ўзялі ўдзел 35 добраахвотнікаў, якія наведалі больш за 250 дзяцей і сталых людзей.

Падобнага кшталту акцыі дазваляюць прыцягваць увагу грамадзкасьці да мясцовых сацыяльных праблем, ажыцьцяўляць грамадзянскія ініцыятывы, накіраваныя на разьвязаньне мясцовых праблем, падвышаць значнасьць грамадзкай актыўнасьці ў вачох насельніцтва, паказваць прыклады станоўчага супрацоўніцтва паміж рознымі сэктарамі.

Мы імкнемся, каб цуды ў нашым грамадзтве здараліся ня толькі перад Калядамі! У людзях жыве дабрыня, і вельмі важна гэтае пачуцьцё абудзіць, стварыць моду на дабрыню.

З нагоды Мінароднага дня валянтэра, сьвяткуецца штогод 5 сьнежня, віншую ўсіх удзельнікаў гэтага выбітнага руху! Здароўя і шчасьця, разуменьня і прызнаньня, усьмешак і радасных вачэй вакол!

**Падрыхтавала**
**Лана РУДНІК**

**здымкі з архіву Валянтэрскага цэнтру «Крок насустрач!»**

***Парады ад Наталі Хацько***

## Радыя паРАДЗІЦЬ

### Як эфэктыўна працаваць з валянтэрамі

Валянтэр сам выбірае сфэру сваёй дзейнасьці, у якой ён плянуе прыкласьці ўласныя высілкі. Гэта ані ў якім выпадку не "чорнарабочы", на якога можна перакласьці ўсю "брудную" працу. Помніце пра гэта!

Пазнаёмьце валянтэра з арганізацыяй і пэрсаналам, іншымі валянтэрамі.

Падрыхтуйце працу, зь якой валянтэр справіцца й будзе бачыць канчатковы вынік.

Навучыце валянтэра ўменьням, патрэбным для працы. Праца з валянтэрамі павінна быць прафэсійнай. У ідэале гэтым павінен займацца асобны супрацоўнік у арганізацыі. Калі ж такога чалавека няма, то функцыі па каардынацыі працы з валянтэрамі можа ўзяць на сябе вызначаны чалавек. Карыснымі тут будуць веды па псыхалёгіі, мэнэджмэнце, навыкі працы ў галіне сувязяў з грамадзкасьцю і інш.

Будуйце працу на мэтадах, якія прызнаюць розьніцу індывідуальных поглядаў і рознабаковасьць падыходаў да разьвязаньня праблем.

Натхняйце і задзіночвайце валянтэраў!

Помніце, што валянтэр можа спыніць працу як з уласнай ініцыятывы, гэтак і з ініцыятывы арганізацыі. Ня трэба баяцца "цякучкі", але варта імкнуцца, каб яна была невялікай.

Прадстаўляйце магчымасьць валянтэрам праяўляць уласную ініцыятыву!

Калі чалавек хоць аднойчы дакрануўся да валянтэрства, зрабіў нешта значнае, убачыў вынік зробленага: чысты двор, усьмешку дзіцяці, атрымаў пахвалу за добрую справу, – гэты чалавек застанецца ў грамадзкай дзейнасьці надоўга.

Калі ж наканавана яму будзе адыйсьці, усё адно ў ім назаўсёды застанецца частачка "добраахвотніцтва" й неабыякавасьці.






Фота Яны Цыдзік

**❖Кола дзён**

# За салідарнасьць!

**Больш двох дзясяткаў актывістаў НГА і палітычных партыяў сабраліся 18 лістапада за круглым сталом у памяшканьні гарадзенскай арганізацыі "Таварыства беларускай школы". Нагодай для сустрэчы сталіся 10-ыя ўгодкі прыняцьця Закону аб грамадзкіх арганізацыях.**

У час сустрэчы былі падрабязна разгледжаныя тыя рэпрэсіўныя зьмены ў Законе, якія адбываліся цягам апошніх гадоў з адзінай мэтай – калі ня зьнішчыць цалкам, дык замацаваць поўны кантроль над "трэцім сэктарам" краіны з боку ўлады. Таксама згадваліся гісторыя разьвіцьця і станаўленьня грамадзкага руху ў краіне, маральна-этычныя моманты дзейнасьці сучасных беларускіх НГА, спэцыфіка арганізацыяў нацыянальных меншасьцяў, і прадпрымальніцкага руху, складанасьці ўзаемадзеяньня паміж грамадзкім і палітычным сэктарамі, а таксама з інфармацыйным абменам паміж імі.

Сярод шэрагу лёзунгаў і прапановаў адзінствам гучаньня вылучаўся заклік да задзіночаньня, кансалідацыі ўсіх незалежніцкіх сіл у краіне. "Нам трэба стварыць нашу "Салідарнасьць". Калі ня створым яе – страцім усё, пачынаючы сваімі арганізацыямі і скончваючы незалежнасьцю Беларусі", – падсумаваў старшыня Гарадзенскай абласной філіі ГА "Фонд імя Лява Сапегі" Ўладзімер Хільмановіч.

Нагадаем, што Закон аб грамадзкіх аб'яднаньнях быў ухвалены 4 кастрычніка 1994 году.

**Валера РУСЕЛІК**

**❖Эўрарэгіён**

# "UROCZYSKO" беларусізуецца



**Паразуменьне пра сумесную падрыхтоўку Міжнароднага культурніцка-экалягічнага фэстывалю "UROCZYSKO" падпісалі грамадзкія аб'яднаньні "Цэнтр "Трэці сектар" (Гародня, Беларусь) і "UROCZYSKO" (Супрасьль, Польшча).**

Фэстываль "Сустрэчы з Прыродай і Мастацтвам - UROCZYSKO" ладзіцца ў мястэчку Супрасьль пад Беластокам з 1995 году. Штогод удзел у мерапрыемстве бяруць дзеячы культуры, народныя майстры, эколягі ня толькі з Польшчы, але і зь іншых краін. Удзел "Цэнтру "Трэці сектар" у падрыхтоўцы чарговых – X і XI фэстываляў "UROCZYSKO" (2005-2006) дазволіць істотна пашырыць "беларускую" частку праграмы. Ня выключана, што частка мерапрыемстваў фэсту (фотавыставы, гастролі тэатраў і г.д.) упершыню будзе праведзеная ў Гародні.

Зараз падрыхтоўкай фэсту займаецца працоўная група, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі абедзьвюх арганізацыяў-партнэраў.

**Вітаўт РУДНІК**



# Неабвешчаная вайна

## кроніка рэпрэсіяў супраць недзяржаўных СМІ Гарадзеншчыны



**16 жніўня** – Прыпыненьне «Новой газеты Сморгони». Афіцыйная падстава – парушэньне артыкулаў 10 і 20 Закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" (выдаўцом газэты зьяўляецца не юрыдычная асоба, а індывідуальны прадпрымальнік).

**16 верасьня** – Выклік галоўнай рэдактаркі газэты «Биржа информации» Алены Раўбецкай у пракуратуру Ленінскага раёну Гародні для разьбіральніцтва па матэрыялу «Предательство именем народа», надрукаванага за яе подпісам у нумары ад 9 верасьня 2004 году. Як вынік, вынясеньне пастановы аб узбуджэньні адміністрацыйнай справы па ч.10 арт.172-1 КоАП. Афіцыйная падстава – парушэньне патрабаваньняў арт.5 Закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" (абраза гонару і годнасьці Прэзыдэнта РБ).

**30 верасьня** – Штраф у памеры 70 базавых велічыняў (1 млн. 300 тыс. рублёў) для галоўнай рэдактаркі газэты «Биржа информации» Алены Раўбецкай як вырак суду Ленінскага раёну Гародні за распаўсюд праз СМІ несапраўдных зьвестак, якія "не адлюстроўваюць законнай падставы прызначэньня га ў адпаведнасьці з артыкулам 85 Канстытуцыі рэфэрэндуму, называючы рэфэрэндум «выклікам грамадству» з указаньнем на адсутнасьць сумленьня" (цытата з судовай пастановы).

**4 кастрычніка** – 5 гарадзенскіх журналістаў (Ірына Чарняўка, Анатоль і Наталя Макушыны, Павал Мажэйка і Юлія Коцкая) зладзілі несанкцыяваны пікет (перад гэтым гарвыканкам адмовіў старшыні мясцовай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Паўлу Мажэйку ў яго правядзеньні), у цэнтры места, пратэстуючы супраць узмацненьня ціску на незалежную прэсу. Журналісты трымалі ў руках аркушы паперы з словамі "У Гродне судзяць журналістаў!!!"

**14 кастрычніка** – Міністэрства інфармацыі прыпыніла тэрмінам на 1 месяц ваўкавыскую «Местную газету». Афіцыйная падстава – парушэньне шэрагу артыкулаў Закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" (распаўсюд несапраўдных зьвестак; публікацыя рэклямныя абвестак пра дзейнасьць, якая патрабуе ліцэнзіі, без пацьвярджэньня рэклямадаўцам права на ажыцьцяўленьне гэткай дзейнасьці; адсутнасьць поўнага адрасу друкарні ў выпускных дадзеных газэты). У знак пратэсту журналіст абвесьціў галадоўку.

**21 і 22 кастрычніка** – Міліцыянты пачалі пошук удзельнікаў несанкцыяванага пікету, які меў месца 4 кастрычніка.

**27 кастрычніка** – У цэнтры Гародні затрыманы адзін з удзельнікаў несанкцыяванага пікету ад 4 кастрычніка Павал Мажэйка. Праз дзьве з палавай гадзіны пасьля затрыманьня адбыліся першае судовае разьбіральніцтва па "Справе пяцёх".

**1 лістапада** – Старшыня Гарадзенскай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Павал Мажэйка асуджаны мясцовым Ленінскім судом на 7 сутак адміністратыўнага арышту. Афіцыйная падстава – парушэньне ч. 1 арт.167-1 КоАП (парушэньне парадку арганізацыі альбо правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, пікетаваньняў і г.д.). У знак пратэсту журналіст абвесьціў галадоўку.

**3 лістапада** – Штрафы ў памеры 20 базавых велічыняў з кожнага як вырак Ленінскага суду Гародні для Наталі і Анатоля Макушыных, яшчэ двох удзельнікаў несанкцыяванага пікету ад 4 кастрычніка. Афіцыйная падстава – парушэньне ч. 1 арт.167-1 КоАП (парушэньне парадку арганізацыі альбо правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, пікетаваньняў і г.д.).

**9 лістапада** – Рэдактар ваўкавыскай "Местной газеты" Андрэй Шантаровіч на просьбу сваіх калегаў з-за рэзкага пагаршэньня стану здароўя спыняе галадоўку, якая агулам доўжылася 20 дзён.

**16 лістапада** – Актывізацыя гарадзенскімі міліцыянтамі пошуку астатніх удзельнікаў несанкцыяванага пікету ад 4 кастрычніка.

**17 лістапада** – На галоўнага рэдактара ваўкавыскай "Местной газеты" складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні. Афіцыйная падстава – правядзеньне несанкцыяванага пікету (зьяўленьне ў Ваўкавыску плякатаў і ўлётак з інфармацыяй пра галадоўку журналіста).

**18 лістапада** – Друкарня "Плутас-маркет" у аднабаковым парадку разарвала дамову на друк з ваўкавыскай "Местной газетой". Афіцыйная прычына – запазычанасьць рэдакцыі перад друкарняй (прыкладна $500).

**25 лістапада** – Штраф у памеры 1 мільёну 200 тысяч рублёў для рэдактара ваўкавыскай "Местной газеты" Андрэя Шантаровіча як вырак Ваўкавыскага раённага суду за яго ранейшую галадоўку. Афіцыйная прычына – правядзеньне несанкцыяванага пікету.

**29 лістапада** – Прыпыненьне выхаду гарадзенскай газэты "Биржа информации". Падставай для гэтага стаўся надрукаваны яшчэ ў верасьні артыкул Алены Раўбецкай "Предательство именем народа". Афіцыйная падстава – парушэньне патрабаваньняў арт.5 Закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" (абраза гонару і годнасьці Прэзыдэнта РБ).

**паводле маніторынгу ГА "Беларуская Асацыяцыя Журналістаў"**



Фота Валеры Руселіка

# На карысьць мясцовай супольнасьці

**12–13 лістапада ў Гародні адбылася міжнародная канфэрэнцыя "Інавацыйныя мэтады працы на карысьць мясцовай супольнасьці".**



Фота Валеры Руселіка

Фота Вітаўта Рудніка

Арганізатарамі канфэрэнцыі выступілі ГА "Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятываў "Трэці сектар" (Гародня, Беларусь) і Цэнтар падтрымкі й развіцьця грамадзянскіх ініцыятываў "ОПУС" (Лодзь, Польшча). Канфэрэнцыя адбылася ў межах праграмы "Тэхнічная дапамога для дзяржаваў, якія знаходзяцца ў пэрыядзе трансфармацыі".

Удзел у мерапрыемстве ўзялі 54 удзельнікі з 34 арганізацыяў, прадстаўляючы 14 беларускіх і польскіх местаў.

Праграма канфэрэнцыі складалася з трох частак:

1) "Мясцовая супольнасьць – што гэта і якія мае заданьні";

2) "Эфэктыўная арганізацыя працы на карысьць мясцовай супольнасьці – тэорыя і практыка";

3) "Эфэктыўная арганізацыя працы на карысьць мясцовай супольнасьці – дзелімся досьведам".

Наступным этапам праекту зьяўляецца азнаямляльны візыт у Польшчу (6-10 сьнежня 2004 году). Удзел у візыце бярэ група зь 10 чалавек, сфармаваная зь ліку прадстаўнікоў арганізацыяў-удзельніц канфэрэнцыі. Таксама ў межах праекту будзе выдадзены зборнік матэрыялаў канфэрэнцыі ў беларускай і польскай мовах.

**Волька АСТРОЎСКАЯ**







# «Цэнтр «Трэці сектар» - 2004: кроніка найважнейшых падзеяў

**Студзень.** Пачатак рэалізацыі праекту "Развіцьцё дыялёгу ў мясцовых супольнасьцях". У Гародні, Лідзе й Мастох пры падтрымцы ГА "Цэнтр "Трэці сектар", "ВІТ" (Гародня) і "Нямецка-Расейскі абмен" пачынаюць стварацца ініцыятыўныя групы, мэтай дзейнасьці якіх павінна стаць ініцыяваньне дыялёгу ў мясцовых супольнасьцях для разьвязаньня актуальных для мясцовых жыхароў праблем.

**Красавік.** 8 удзельнікаў ініцыятыўных груп з Гародні, Ліды й Мастоў на працягу тыдня знаходзяцца ў Нямеччыне, дзе вывучаюць тамтэйшы досьвед працы па наладжваньні партнэрства на мясцовым ўзроўні і далучэньні грамадзянаў да разьвязаньня прыярытэтных мясцовых праблем.

Удзельнікі праекту "Адкрытасьць. Інфармаванасьць. Дыялёг" (ШМЖ-8) выдалі ўласную навучальную газэту "JEANS".

**Травень.** Выпуск удзельнікаў праекту "Школа маладога журналіста-8". Упершыню ўдзел у праекце бяруць ня толькі гарадзенцы, але й моладзь зь Ліды Слоніму і Смаргоняў.

**Ліпень.** На сустрэчы сябраў арганізацыі выпрацаваная канцэпцыя працы "Публічнага інфармацыйнага пункту" (ПІП), які пачынае сваю працу ў кастрычніку. Гэткія ж пункты павінны паўстаць у Лідзе й Мастох.

**Верасень.** 9 сябраў і валянтэраў арганізацыі бяруць удзел у беларуска-гішпанска-польска-ўкраінскім летніку ў межах праекту "Душа. Розум. Цела. Самаўдасканаленьне дзеля разьвіцьця мясцовай супольнасьці". Паводле вынікаў летніку выдадзены спэцвыпуск часапісу "Трэці сэктар".

**Кастрычнік.** Сябры арганізацыі бяруць удзел у паседжаньні аргкамітэту фэстывалю "Урачыска. Сустрэчы з прыродай і мастацтвам" (Супрасьль, Польшча). Дасягнутая дамоўленасьць пра тое, што грамадзкае аб'яднаньне "Цэнтр "Трэці сектар" будзе партнэрам таварыства "Урачыска" ў справе арганізацыі фэстаў у 2005 і 2006 гг.

**Лістапад.** У Гародні адбываецца буйная беларуска-польская канфэрэнцыя "Інавацыйныя мэтады працы на карысьць мясцовай супольнасьці", арганізаваная "Цэнтрам "Трэці сектар" і нашымі партэрамі з Цэнтру "ОПУС" (Лодзь, Польшча). Удзел у сустрэчы бяруць прадстаўнікі больш як 30 арганізацыяў з усіх частак Беларусі, а таксама з Польшчы.

**А яшчэ ў нас за год:**

- ажаніліся (1 чалавек), нарадзіўся сын (1 чалавек), парадаваліся яшчэ аднаму ўнуку (1 чалавек), з посьпехам скончылі ВНУ (1 чалавек), выдаліся 5 нумароў "ТС"...



**Душа. Розум. Цела**

# Восень'89: Данчык і газэтныя баталіі

**Старшыня гісторыка-культурнага клюбу "Паходня" Мікола Таранда працягвае свае ўспаміны. Гэтым разам аўтара прапануе ўсім разам апынуцца ў Гародні ўвосені 1989 году.**




2 верасьня 1989 году гарвыканкам ладзіў суботнік, грошы ад якога ішлі на дапамогу чарнобыльцам. І таму некалькі пахаднянцаў выйшлі папрацаваць на скрыжаваньні вуліц Ажэшкі й Дзяржынскага. А ў нядзельным нумары (газэты тады выходзілі і ў выходныя) "Знамя юности" за 3 верасьня пад назвай "Диалог? Диалог!» былі апублікаваныя матэрыялы "круглага стала" лідараў рэспубліканскага камсамолу й самадзейных нефармальных аб'яднаньняў моладзі, якія ўваходзілі ў склад БНФ "Адраджэньне". Мне давялося пабываць на той сустрэчы, але ў размове ўдзелу я ня браў, паколькі вельмі актыўна дыскутавалі з боку нефармалаў Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды Алесь Суша.

4 верасьня 75 "пахаднянцаў" працягвалі абмяркоўваць праект абласной праграмы "Родная мова". У дакумэнце, накіраваным пасьля ў 5 розных інстанцыяў, мы выказалі спачатку агульныя заўвагі і прапановы. Адносна пункту 5 пректу мы цьвердзілі: "Пара ўспомніць, што БССР – беларуская дзяржава, і вяртаньне беларускай мове належнага ёй статусу – справа таксама дзяржаўная. Прынцып пераемнасьці атрыманьня адукацыі ў беларускай мове ад садка праз школу да ВНУ павінен увайсьці ў праграму канкрэтнымі пунктамі. Установы асьветы і культуры павінны ў першую чаргу практычна пераходзіць у беларускую мову ў паўсядзённай працы". А па пункту 11 дык напісалі наступнае: "Недаўменьне выклікае, асабліва ў кантэксьце ўсяго пункту, запіс аб "свабодным выбары студэнтамі мовы навучаньня". Аб якіх магчымасьцях выбару тут пішацца? На нашу думку, тут наўмысна працягваецца спосаб ігнараваньня беларускамоўнага і стварэньне пэўнай атмасфэры, дарэчы, вельмі выразнай у асяродзьдзі выкладнікаў, якія беларускай мовы ня ведаюць і ня хочуць ведаць. У такой атмасфэры "свабода выбару" студэнта па сутнасьці абумоўленая "свабодай няведаньня" выкладніка. Гэты пункт трэба перапрaвіць". Пасьля абмеркаваньня дакумэнт акрамя мяне, як старшыні клюбу, падпісалі вядоўцы сходу Аркадзь Жукоўскі і Алесь Чобат.

У гэны час Міхась Ткачоў, пасьля працяглага цкаваньня яго на працы, ужо быў пераехаў у Менск, дзе пачаў працаваць у рэдакцыі БСЭ. Аднак у час наведваньняў Гародні ён заўсёды прысутнічаў на паседжаньнях "Паходні". Гэтак, 11 верасьня мы сустракаліся з дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Гародні Валянцінай Кісялёвай й намесьнікам старшыні БНФ Міхасём Ткачовым.

Сп. Міхась на паседжаньні Рады клюбу прапаноўваў замест сябе на пасаду прэзыдэнта "Паходні" Аляксея Пяткевіча. Але мы чамусьці ня выканалі яго прапановы, магчыма, баючыся, што Пяткевіч яшчэ больш лагодны да ўлады, чым сам Ткачоў. Думаю, што тады мы памыляліся, бо, як паказала жыцьцё, сп. Аляксей усе пазьнейшыя гады заставаўся шчыра адданы нашай справе й "Паходні". А вядоўцаў пахаднянскіх сустрэч мы пачалі па чарзе зьмяняць, хоць ролю лідэра нефармальна заняў Аркадзь Данілавіч Жукоўскі, чалавек непахісны, крыху грубаваты, за што праз гады не аднойчы быў незаслужана крытыкаваны сябрамі Народнага Фронту.

У "Гродненской правде" ад 7 верасьня быў зьмешчаны допіс намесьніка галоўнага архітэктара абласнога цэнтру Ўладзімера Анісімава "Что показало обсуждение? (о памятнике К. Калиновскому 6 июля)", у якім былі выказаны папрок клюбу "Паходня" за ўхіленьне ад абмеркаваньня разьмяшчэньня помніка кіраўніку паўстаньня 1863-1864



Зьлева направа: кінарэжысэр Адольф Канеўскі, Юлія Андрусішын (маці Данчыка), Данчык, Сяржук Сокалаў-Воюш (сядзіць) і Лявон Барткевіч ля ўваходу ў Палац "Юнацтва" (22.09.1989 г., Гародня)

гг. Давялося зноўку даваць пісьмовы адказ. У тым адказе мы прыгадалі і ўзьнікненьне самой ініцыятывы ўсталяваньня помніка, тыя немалыя грошы, якія ўжо былі намі сабраныя. Таксама адзначылі сярод пералічаных у допісе Анісімава прозьвішчаў двух сябраў клюбу.

Прыкладна ў той час на будынках у Гародні пачалі зьяўляцца шыльды, на якіх назвы вуліц былі напісаныя вельмі дробным шрыфтам у дзьвюх мовах: і па-расейску, і па-беларуску. Я закрануў гэтае пытаньне ў асабістай размове з "бацькамі" места Аляксандрам Алёшыным і Станіславам Андрэеўскім. Дзіўна, але яны паабяцалі разабрацца. І праўда, пазьней назвы вуліц пачалі зьяўляцца толькі ў беларускай мове.

Раніцай 12 верасьня па гарадзенскім радыё клюбу была прыпісаная нібыта прапанова зьнясеньня помніка маршалу Сакалоўскаму, каб вызваліць месца для помніка Каліноўскаму. Насамрэч жа на паседжаньні "Паходні" 4 верасьня было зацьверджана 8 адменьнікаў разьмяшчэньня помніка паўстанцу для дакладу гарадзкой камісіі. Аб пераносе (а аб зьнясеньні й пагатоў) бюсту маршала ў нас не было нават гаворкі.

Тады ж у "Гродненской правде" зьявіўся артыкул старшыні выканкаму абласнога Савету народных дэпутатаў Дзьмітрыя Арцыменi "По поводу письма "Удар... по ветеранам", опубликованного в "Гродненской правде" 15 сентября с.г.". Рэч у тым, што нашыя "пахаднянцы" хацелі перадаць ведамасную паліклініку пад дзіцячую, дзеля чаго сабралі па ўсім месьце багата подпісаў. Як ні дзіўна, але выканкам абласнога Савету народных дэпутатаў прыслухаўся да прапановаў жыхароў Гародні і сваёй пастановай ад 31 жніўня перадаў абласную паліклініку №3 для арганізацыі на яе базе дзіцячай паліклінікі. Дагэтуль у згаданай установе абслугоўваліся кіроўныя партыйныя, савецкія, гаспадарчыя работнікі і пэрсанальныя пэнсіянэры. Спадар Арцыменя абгрунтаваў неабходнасьць гэткай пастановы і ўдакладніў, што зараз работнікі аблвыканкаму будуць абслугоўвацца ў паліклініках па месцы жыхарства.

18 верасьня на сустрэчы разглядаўся цэлы шэраг пытаньняў. Людміла Мацюк распавядала пра сытуацыю ў Эстоніі, Андрэй Майсяёнак – у Летуве. Аляксей Пяткевіч інфармаваў пра дзейнасьць Таварыстве беларускай мовы ў Менску. Апошнім пытаньнем была размова аб падрыхтоўцы канцэрту вядомага сьпевака з Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Данчыка ў Гародні. Апошні прыехаў у Менск раніцай 11 верасьня, а ўжо на наступны дзень выступаў з сваімі сябрамі Лявонам Барткевічам і Сяржуком Сокалавым-Воюшам у гасьцёўні Галубка. Іх сумесныя канцэрты плянаваліся на 20 і 21 верасьня ў Менскім Палацы прафзьвязаў. Арганізацыяй выступаў займаліся радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" і Музычны цэнтар ЦК ЛКСМБ.

Паколькі ў той час я ўваходзіў у склад "Маладзёвага цэнтру" пры Гарадзенскім гаркаме камсамолу, то папрасіў кіраўніка Цэнтру Ігара Ліговіча правесьці канцэрт Данчыка ў Гародні сумесна з "Паходняй". Мы тады разам зараблялі грошы на "Маладзёвы цэнтар", якім Ігар кіраваў і які затым стаўся своеасаблівым вытокам фірмы "Mladi". Ігар дастаў білеты ды аддаў іх мне, і вельмі хутка ўсе 700 квіткоў былі раскупленыя.

Ішоў я неяк на працу ў Інстытут біяхіміі праз Пышкі, у дыплямаце – канцэртныя грошы, 2000 рублёў (на 1989 год – вялікая сума). Па дарозе запыняе цыганка Марыя, якой трэба было ўжо знаходзіцца ў радзільным доме. Спыняюся і стараюся ня думаць аб тым, што ў дыплямаце, – і дзякуй Богу! Бо далей здарылася наступнае. Цыганка прапанавала пагадаць на мой лёс. Для гэтага я мусіў скруціць

некалькі купюр, а затым дзьмухнуць на іх. Я ўзяў 30 рублёў, скруціў іх і падаў жанчыне. Тая сьціснула грошы ў кулак і падсунула руку да мяне. Я дзьмухнуў. Яна расьціснула руку, і я ўбачыў... пустую далонь! Марыя патлумачыла, што грошы паляцелі ад мяне й вернуцца назаўтра. Чамусьці я даў ёй веры й наіўна чакаў да заўтра. Аніякіх грошай, вядома ж, да мяне не прыляцела ані на заўтра, ані пазьней. Раззлаваны, я зноўку знайшоў цыганку й запатрабаваў назад свае грошы. Марыя, якая, відаць, мела нейкія гіпнатычныя здольнасьці, патлумачыла, што мяне нехта сурочыў – таму грошы й не вярнуліся. Цыганка параіла пайсьці ў краму, купіць яйка і прынесьці яго ёй, каб яна магла адвесьці ад мяне тыя сурокі. Ну добра, аднойчы падманула – другі раз не атрымаецца! Раззлаваўся я й пашоў сабе: паспрабуй дачапіся, як тых цыганоў вакол назьбіралася!

Якім жа ж трэба было быць дурнем! Ды каб я гэткі адзін, а то ж – большасьць. І старых, і маладых. А цыганоў на ўсіх хапала. Аднойчы назіраю, як нейкі студэнт з мэдінстытуту поўзае пад кустамі й шукае свае грошы. З маёй дапамогай яму ўдалося вярнуць палову страчанай сумы. Цыганоў станавілася ўсё больш. Недалёка ад Новага маста, на тым месьце, якое ў свой час планавалася аддаць пад унівэрсытэцкі гарадок, яны пабудавалі некалькі доўгіх баракаў, палілі вогнішчы, балдзелі.

У гарвыканкаме я прапанаваў Алесю Мілінкевічу, які працаваў загадчыкам аддзелу культуры, нешта прадпрыняць. Ён мяне супакоіў тым, што паабяцаў выселіць цыганоў, паколькі забудова была незаконнай. І сапраўды, праз нейкі час баракі зьніклі, а іх насельнікі некуды зьехалі.

Перад прыездам Данчыка ў Гародню тэлефонныя перамовы мы вялі праз сям'ю Лявона Барткевіча, і тады я размаўляў зь яго жонкаю Вольгай Корбут, гарадзенкай, пра якую чуў яшчэ з часоў свайго студэнцтва, але гэтак аніразу й не спаткаліся.

Сустракаў гасьцей я на дарозе за местам, у вышыванцы ды з нацыянальным сьцягам. Спыніліся дзьве машыны, у якіх быў толькі адзін чалавек, які мяне добра ведаў, – гэта Сяржук Сокалаў-Воюш з Полацку. Адразу заехалі да бацькоў Вольгі Корбут, якія жылі у будынку паміж бібліятэкай Карскага і кінатэатрам "Гродна" *(дом зараз зьнесены – **заўв. аўтара**)*.

З Данчыкам мы пазнаёміліся праз Лявона Луцкевіча, ягонага сваяка. У 1986 годзе ў Вільні я перапісаў кружэлку Данчыка на магнітафонную стужку, а праз нейкі час з Амэрыкі прыйшоў і сам дыск. Пагэтаму за тры гады Данчык у Беларусі быў добра "раскручаны": мы слухалі яго на самых розных сустрэчах і імпрэзах. У дзень выступленьня ў Гародні ў газэце "Высота" была зьмешчаная мая інфармацыя аб Данчыку "Мы адной табе належым...", якая скончвалася наступным чынам: "...У зваротным лісце Данчык пісаў: "Дзякую табе за ліст, за добрыя словы, якія мяне падтрымалі на духу і стварылі ахвоту прысвяціць жыццё роднай песні. Бо калі выкананне песняў кранае людскія сэрцы, значыцца я нечага варты..." Нялёгкай і доўгай была яго дарога на Радзіму. Але сёньня, 22 верасня, у палацы "Юнацтва" будуць гучаць беларускія песні ў выкананні Данчыка, Лявона Барткевіча і Сяргея Сокалава-Воюша. Пачатак канцэрту ў 20 гадзін. Тыя, хто прыйдзе на сустрэчу, упэўнены, застануцца задаволены".

Пасьля быў канцэрт у Палацы "Юнацтва" ў перапоўненай залі, за які артысты з 2000 атрымалі толькі 800 рублёў. На вячэру запрасіла да сябе паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Таксама прысутнічалі Васіль Бязьмен і Зьміцер Кісель. Васіль ахвяраваў для Данчыка вышыванку, хоць той меў сваю вельмі прыгожую кашулю, вышываную ягонай маці Юліяй Андрусішын.

Інфармацыя пра гастролі Данчыка яшчэ доўга, ажно да позьняе восені, гуляла па старонках самых розных беларускіх газэт. І нават газэта "Маяк" завода "Аўтамагнітола" надрукавала артыкул Лявона Крывіцкага (Луцкевіча) "Амэрыканскі сьпявак у Вільні". У той час у кожным нумары "Маяка", дзякуючы пахаднянскім актывістам Юрыю Бацылеву ды Івану Захару, выходзіла "Родная старонка", а на самім заводзе працавалі курсы беларускай мовы ў межах унівэрсытэту "Гісторыя і культура Беларусі", якія два разы на тыдзень праводзіў старэйшы выкладнік катэдры беларускай мовы Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэта імя Янкі Купалы Пятро Навіцкі.

У той самы час кінарэжысэрам Адольф Канеўскі зьняў дакумэнтальны фільм "Данчык", затым які дэманстраваўся ў гарадзенскіх кінатэатрах, а таксама на ўсесаюзнай тэлевізіі.

...У 1996 годзе, 22 сьнежня, Данчык зноўку наведаў Беларусь з канцэртнай праграмай. У Гарадзкім Доме афіцэраў, дзе адбываўся канцэрт, не хапіла месца для ўсіх ахвотнікаў, і таму аматары яго песьняў слухалі выступ з фае. І гэта пры тым, што ў месьце вісела толькі адна аб'ява – на ўваходных дзьвярох ГДА. Вячэраў сьпявак у гатэлі "Гродна", а на наступны дзень завітаў у "Батлейку" і папоўніў шэраг яе знакамітых наведвальнікаў.

У трэці раз мы бачыліся зь ім падчас майго падарожжа ў Прагу сёлета ўлетку. З-за яго надзвычайнай занятасьці мы паразмаўлялі толькі некалькі хвілін. На ўспамін я пакінуў Данчыку магнітафонны запіс вандроўкі па Вільні, якую праводзіў для пахаднянцаў у 1986 годзе Лявон Луцкевіч. Мы з жонкаю ня толькі добра пазнаёміліся з сталіцай Чэхіі, але й пабачыліся зь вялікай колькасьцю беларусаў, якія атрымалі там палітычны прытулак, а таксама наведалі магілы Старшыняў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пятра Крэчэўскага й Васіля Захаркі, вядомага беларускага опэрнага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Яшчэ пабывалі ля помніка Францыску Скарыне й дошцы ў яго гонар на сьцяне Карлаўскага ўнівэрсытэту й даведаліся, што яны былі ўсталяваныя дзякуючы намаганьням былога міністра замежных справаў Беларусі Пятра Краўчанкі...

25 верасьня Алесь Чобат рабіў даклад аб пакце Рыбэнтропа-Молатава. Гэты пакт актыўна разглядаўся ў той час у прыбалтыйскіх рэспубліках, а мы дагэтуль амаль нічога пра яго й ня ведалі. Яшчэ 23 жніўня каля 2 мільёнаў жыхароў Летувы, Латвіі і Эстоніі ўзяліся за рукі і правялі акцыю салідарнасьці ў барацьбе за волю й незалежнасьць "Балтыйскі шлях". У газэце "Правда" была апублікаваная заява ЦК КПСС аб сытуацыі ў Прыбалтыцы, у якой гучала папярэджаньне, што "будут предприняты меры", накіраваныя на зьнішчэньне ў Балтыі "вируса национализма". Але праз тыдзень Міхаіл Гарбачоў, тагачасны кіраўнік СССР, адмежаваўся ад гэтага рэзкага тону. Зрабілася зразумела, што сутыкненьня паміж Масквою і балтыйскімі рэспублікамі можа й ня быць. У СССР узьнікла праблема Арменіі з Нагорным Карабахам ды Грузіі, дзе ўвесну моладзь супакойвалі сапэрнымі рыдлёўкамі, з Абхазіяй, дзе ўлетку таксама гінулі людзі, а таксама з крымскімі татарамі, якім не давалі вяртацца на гістарычную радзіму. Я й сёньня памятаю той татарскі горад з намётаў каля сьценаў Крамля, бо якраз у тыя дні быў у Маскве.

Тады ж, увечары 25 верасьня, мы выслухалі й выступ Валерыя Задалі аб КПЗБ, што ў нейкай ступені было зьвязана зь сьвяткаваным у той час у рэспубліцы 50-годзьдзем аб'яднаньня Заходняй Беларусі з Усходняй.

30 верасьня ў Менску адбыліся шэсьце і мітынг "Чарнобыльскі шлях", заяву на правядзеньне якіх падпісалі 636 чалавек, але пакараныя былі толькі двое: старшыня камітэту "Дзеці Чарнобылю" Генадзь Грушавы, які атрымаў 300 рублёў штрафу, і Юры Хадыка, навуковец, доктар фізіка-матэматычных навук, прафэсар, намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне", атрымаў 2 месяцы папраўчых работ па месцы працы з утрыманьнем 20% заробку. 18 кастрычніка ў газэце "Известия" з гэтае нагоды зьявілася інфармацыя "За что осудили Ходыку".

Юры Хадыка быў частым госьцем на "Паходні", і таму ў Гародні быў арганізаваны збор подпісаў у падтрымку пакараных, якія накіроўваліся ў Вярхоўны Савет БССР, а таксама грошай на выплату штрафаў. А асабіста для мяне гэта быў момант прыняцьця рашэньня аб выхадзе з шэрагаў КПСС. Балазе мой бацька, звычайны калгасьнік, зразумеўшы сапраўдную палітыку партыі, выйшаў зь яе яшчэ ў пачатку 1989 году. Цяжка хворы, пасьля інфаркту, ён ляжаў у шпіталі, а заяву за яго пісала мая маці.

На пахаднянскай сустрэчы 2 кастрычніка мы гутарылі пра сьвяткаваньне "Дзядоў", Міхась Амялішка распавёў пра сустрэчу з гомельскай "Талакой". Сакратар ГК ЛКСМБ Анатоль Падгорны інфармаваў нас аб VIII Пленуме ЦК Камсамолу Беларусі, на якім таксама разглядалася й пытаньні нацыянальнага разьвіцьця й выкарыстаньня роднай мовы. 16 кастрычніка на чарговай нашай сустрэчы нехта расказаў пра фэст будаўнічых атрадаў у Міры, разгледзелі чарговы ліст у Вярхоўны Савет БССР і азнаёміліся з інфармацыяй аб дзейнасьці ТБМ.

XII сэсія ВС БССР ухваліла законы "Аб зьмяненьнях і дапаўненьнях Канстытуцыі БССР" і "Аб выбарах народных дэпутатаў...". Нягледзячы на вынікі папярэдня-



**На Старым Замку (зьлева направа): Зьміцер Кісель, Данута Бічэль-Загнетава, Данчык, Адольф Канеўскі, Лявон Барткевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш, Юлія Андрусішын, Васіль Бязьмен (23.09.1989 г., Гародня)**




У час каранацыі біскупа Беларусі Тадэвуша Кандрусевіча ля Фарнага касьцёла (29.10.1989 г., Гародня)

га абмеркаваньня праектаў законаў, выступы многіх дэпутатаў, хвалі акцыяў пратэсту ў час сэсіі, права выбараў ад грамадзкіх арганізацыяў было захаванае. Але гэтае права атрымалі толькі Беларускі савет вэтэранаў вайны і працы, таварыствы глухіх, сьляпых і інвалідаў.

23 кастрычніка абмяркоўвалася падрыхтоўка "Дзядоў". Таксама Андрэй Майсяёнак праінфармаваў прысутных аб стварэньні гістарычнага клюбу АН БССР.

29 кастрычніка ў Гародні калёна дэманстрантаў, якую ўзначальвалі актывісты гарадзкой Рады БНФ і сябры клюбу "Паходня", з нацыянальнымі сьцягамі ды харугвамі з гербамі беларускіх местаў рушыла прыкладна а 10 гадзіне раніцы ад Гарадзкога Дому культуры да Вайсковых могілак, што на вуліцы Белуша. Пастанавілі не заходзіць на Савецкі пляц, каб не перашкаджаць каранацыі біскупа Беларусі Тадэвуша Кандрусевіча, якая ў гэты час адбывалася ля Фарнага касьцёла й на якую сабраліся некалькі тысяч вернікаў. У рэлігійнай ўрачыстасьці ўдзельнічалі таксама архіяпіскап з Ватыкану Каласона, япіскапы з Польшчы Кісель, Пэц, Патэрскі, Дамброўскі, гарадзенскія сьвятары Рускай праваслаўнай царквы Урлік, Астроўскі, Камкоў. Для тых, хто ня здолеў трапіць у касьцёл, на вуліцы былі ўсталяваныя ўзмацняльнікі. Паколькі ўрачыстае набажэнства пачыналася з 12 гадзін, мы пасьпелі пасьля "Дзядоў" трапіць і на яго.

Па дарозе да Вайсковых могілак былі ўскладзеныя кветкі да помнікаў воінам, партызанам і падпольшчыкам у мескім парку, а таксама для Элізы Ажэшка, Янкі Купалы, маці Максіма Багдановіча, на магілы вядомых грамадзкіх дзеячоў на старых могілках, што на вуліцы Антонава. Мітынг распачаў Алесь Чобат. Затым Данута Бічэль-Загнетава распавяла пра старажытную беларускую традыцыю памінаньня продкаў "Дзяды", адзначыла патрэбу ў яе адраджэньні. Таксама выступілі былыя вязьні ГУЛАГу, намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне" Юрась Хадыка, а таксама Алесь Белакоз, Зьміцер Кісель, маладыя гарадзенскія паэты. Мітынг быў санкцыяваны. Спачатку гарвыканкам яго не дазволіў, але затое даў дазвол аблвыканкам, які прызначыў замест Савецкага пляцу месца для мітынгу на Вайсковых могілках. Шмат хто ня ведаў пра тое, і таму ўдзельнікаў мітынгу было толькі каля 400 чалавек.

На паседжаньні "Паходні" 30 кастрычніка тэма "Дзядоў" была працягнутая. Уладзімер Кісель распавёў пра паўстаньне зьняволеных у Спэцлягу (адзін з сталінскіх спэцлягероў, які знаходзіўся ў Казахстане – заўв. аўтара) дзе сп. Кісель знаходзіўся ў 1949-1960 гг. нібы за антыбальшавісцкую дзейнасьць. Аляксей Пяткевіч распавёў пра тагачасныя рэпрэсіі супраць праваслаўных жыхароў Беласточчыны. Сытуацыя ў краі й сапраўды была крытычная: адна за другой зь невядомае прычыны гарэлі праваслаўныя цэрквы, аўтары шыльдаў з назвамі мясцовых вёсак па-беларуску траплялі ў пастарунак і г.д.

13 лістапада выкладнік ГарДУ імя Янкі Купалы Валеры Ліёпа распавёў пра экалягічныя праблемы з пункту гледжаньня фізыкі. 20 лістапада размова вялася пра сьвяткаваньне 125-годзьдзя з дня сьмерці Тодара Нарбута. У тойсама вечар на паседжаньні "Паходні" былі вылучаныя 52 кандыдаты на Гарадзенскую ўстаноўчую канфэрэнцыю Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Два запрашэньні былі выдзеленыя для сябраў Польскага культурна-асьветнага таварыства імя Адама Міцкевіча. Мы накіравалі на канфэрэнцыю гэткую вялікую колькасьць дэлегатаў таму, што нягледзячы на тое, што "пахаднянец" Аляксей Пяткевіч быў у аргкамітэце ТБМ, партыйнымі ўладамі рабілася спроба перахапіць ініцыятыву ў свае рукі *(як, зрэшты, і падчас іншых мерапрыемстваў –* ***заўв. аўтара****)*.

Тая восень была вельмі прадуктыўнай у пляне друкаваньня лістоў сябрамі "Паходні" ў розных выданьнях. 19 верасьня за маім прозьвішчам у "Гродненской правде" быў надрукаваны артыкул "Надаць статус дзяржаўнай", а ад усёй сям'і Лізаветы Ганец – допіс "Павінны самі", у якім яна пісала: "...Складваецца ўражанне, што мы хочам дагадзіць усім, акрамя саміх сябе ... а нашу прыгожую мову пахаваем, калі не надамо ёй статус дзяржаўнай". Яшчэ ў канцы кастрычніка ў "Гродненской правде" ў пляне абмеркаваньня праекту ўсё той жа абласной праграмы "Родная мова" зьявіўся артыкул Аляксея Пяткевіча "Роднае слова – народу", які заканчваўся наступным чынам:: "Беларуская мова павінна стаць адзінай дзяржаўнай мовай рэспублікі, усім жа нацыянальным групам насельніцтва неабходна стварыць поўныя магчымасці для рэалізацыі іх духоўнага жыцця". У тым самым нумары Тамара Сак у артыкуле "Беларусы за акіянам" дзялілася ўражаньнямі аб сваіх амэрыканскіх сустрэчах. Там, у розных местах яе пыталі пра гарадзенскую "Паходню" – і ёй было сорамна, што, жывучы ў Гародні, нічога пра яе ня ведала. А для мяне ад амэрыканскіх беларусаў яна прывезла кашульку з выявамі старажытных гербаў Беларусі. Марыя Саўкевіч друкавала ў "Гродненской правде" свае развагі "Нашу спадчыну – нам ратаваць". Хоць тады яна яшчэ была сябрай лідзкай "Руні", але нашыя суполкі цесна супрацоўнічалі. У адным з нумароў верасьнёўскай "Чырвонай змены" пад рубрыкай "Рэзананс" выказаліся Аркадзь Жукоўскі ў допісе "Эх, хлопцы!.." і Валодзя Наўмовіч – "Няўжо вінавата методыка?". Ніна Тарэлкіна да 150-годзьдзя Францішка Багушэвіча надрукавала ў "Гродненской правде" артыкул "Паэт і грамадзянін". Андрэй Майсяёнак зьмясьціў у "Чырвонай змене" за 18 лістапада допіс "Нарбуты". У друку распачалося шырокае абмеркаваньне артыкулу Міхася Ткачова "Национальные символы: народ и история", у якім абгрунтоўвалася патрэба ў вяртаньні нацыянальнай сымболікі. А Юсуф Крыніцкі ў інтэрвію карэспандэнту газэты "Высота" "600 лет рука об руку" распавёў пра беларускіх татараў, адным зь якіх ён і быў. Юсуф ведаў 19 пакаленьняў сваіх продкаў да 1410 году, мог вольна чытаць кітабы (беларускамоўныя кніжкі, якія пісаліся арабскімі літарамі). Да стварэньня ў Гародні татарскага грамадзка-культурнага аб'яднаньня "Кетаб" ён хадзіў на "Паходню", крыху пазьней разам езьдзілі на "Басовішча'90". Ён плянаваў адбудоўваць у Беларусі мячэты, але быў зладзейскі забіты колькі гадоў таму разам з жонкаю й сынам. У мяне захаваліся візытоўкі з адрасамі яго крамы "Чырвонец" у Амэрыцы, а таксама беларуска-арабскае выданьне "Карану" зь яго аўтографам.

Валеры Задаля ў артыкуле "Здзіўляцца ці абурацца" ("Гродненская праўда", 14.10.1989 г.) спрабуе даць адпор прапановам сябраў Польскага культурна-асьветнага таварыства імя Адама Міцкевіча аб тым, што палякі павінны вывучаць замест беларускай польскую мову. Гэтая пазыцыя была выказаная ў артыкуле "Нашы прапановы" тагачаснага кіраўніка таварыства Тадэвуша Гавіна, які зьявіўся ў друку крыху раней.

25 і 26 лістапада ў Менску адбылася Асамблея народаў "Чарнобыльскі шлях", арганізаваная БНФ, у якой узялі ўдзел народныя дэпутаты СССР Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў і Станіслаў Шушкевіч, віцэ-прэзыдэнт АН БССР І. Ліштван, акадэмік Яўген Канапля і інш. На Асамблеі былі ўхваленыя "Дэклярацыя", Звароты да народаў сьвету і да ІІ зьезду народных дэпутатаў СССР.

27 лістапада мы абмяркоўвалі тое, аб чым гаварылася на пленуме Гарадзенскага гаркаму КПБ "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах". Вось, да прыкладу, што гаварыў на пленуме дакладчык Аляксандар Алёшын, тагачасны першы сакратар Гарадзенскага гаркаму партыі, у адрас інтэлігенцы й "Паходні": "...В то же время нельзя закрывать глаза на то, что некоторые творческие, научные работники бросаются в крайности, без должного знания истинного положения дел пользуются поверхностной аргументацией, склонны выдавать свои взгляды за истину в последней инстанции, проявляют нетерпимость к иным точкам зрения, лишь на словах поддерживая плюрализм мнений.

Прямо и непосредственно это относится к членам областной писательской организации. Часть ее членов, и в первую очередь руководство *(думаю, найперш ён меў на ўвазе Аляксея Карпюка, асабліва яго артыкул у "Гродненской правде" "Печальные были" –* ***заўв. аўтара****)*, чрезмерно эмоционально и зачастую односторонне выражают свои настроения, пытаются лишить белорусский народ его исторического прошлого в составе социалистической республики, весьма своеобразно, а порой и тенденциозно трактуя его. Известные в городе люди, они своими выступлениями на митингах, в печати во многом оказывают влияние на формирование национального поведения людей, особенно молодежи, при любом удобном случае стремятся вбить клин между трудящимися и органами Советской власти города, представляя их деятельность как сплошную полосу ошибок, а то и злонамеренных решений, наносящих вред жителям города, всему белорусскому народу. Вслед за этими представителями творческой интеллигенции формируется и однобокое и даже порой антисоциалистическое, антирусское настроение и у отдельных членов клуба «Паходня» и объединения, назвавшего себя именем Максима Богдановича... К сожалению, и коммунисты творческих союзов, партийные комитеты вузов зачастую занимают пассивную, выжидательную позицию, вместо того, чтобы дать принципиальную партийную оценку подобным выступлениям...".

**Мікола ТАРАНДА**

**здымкі з архіву аўтара**

## Галяндцы дапамогуць

**Праграма Малых Праектаў (Matra/KAP) пры Амбасадзе Каралеўства Нідэрляндаў у Варшаве абвяшчае спабор на атрыманьне грантаў для невялікіх праектаў, якія будуць ажыцьцяўляцца як прыватнымі ініцыятывамі, гэтак і рознымі калектывамі.**

Удзел у праграме могуць узяць і беларускія НГА і ініцыятывы. Заявы трэба накіроўваць ў Амбасаду Нідэрляндаў у Варшаве. Зацікаўленыя могуць зьвяртацца ў Амбасаду ў які заўгодна час і падаваць заявы ў адвольнай форме на адрас:

Royal Netherlands Embassy
Matra/KAP
10, Kawalerii St.
00-468 Warsaw, Poland
http://www.nlembassy.pl

Кантактная асоба – Лукаш Бырскі (war-matra@minbuza.nl).

Найвялікшы памер гранту – 12700 USD (11500 euro).

Таксама інфармацыю па праграме Matra/KAP у Беларусі можна атрымаць у Консульстве Каралеўства Нідэрляндаў у Менску па тэл.: (017) 262-53-23, ці па электроннай пошце: nedcons@gtp.by.

**Падрыхтавала Алеся БЯЛЕНІК**

## Спабор для добрых суседзяў

**Амбасада Польшчы ў Беларусі абвяшчае V спабор для журналістаў "Польшча – прыязная суседка Беларусі".**

Да ўдзелу ў спаборы прымаюцца публікацыі, а таксама радыё- і тэлематэрыялы за 2004 год на наступныя тэмы:

- сучасная Польшча;
- агульная гістарычная спадчына Беларусі й Польшчы;
- значэньне сяброўства Польшчы ў Эўрапейскім Зьвязе для інтэграцыі Беларусі з Эўропай;
- польскія ворганы самакіраваньня як падмурак рэгіянальнага дэмакратычнага разьвіцьця;
- роля свабодных СМІ і няўрадавых арганізацыяў у Польшчы;
- польска-беларускае эканамічнае супрацоўніцтва.

Прэмія за I месца складае $250, за другое – $200, за трэцяе – $150. Акрамя таго, будуць уручаныя пяць прэміяў па $100 і дзесяць прэміяў па $50.

Апошні тэрмін падачы заявак – 20 сьнежня 2004 г.

Матэрыялы з пазнакай "Конкурс" трэба выслаць на адрас:

вул. Румянцава, 6
220034, Менск

**паводле "МедиаЭксперт"**

## Правы чалавека: швэдзкі адменьнік

**Інстытут SIDA (Швэдзкая агенцыя міжнароднага разьвіцьця) арганізуе праграму трэнінгаў па чалавечых правах.**

Практычныя курсы маюць на мэце паглыбіць веды ўдзельнікаў пра міжнародныя і рэгіянальныя сыстэмы прасоўваньня і абароны чалавечых правоў, маніторынг мэханізмаў і выкананьня нацыянальнай праграмы ў галіне чалавечых правоў. Удзельнікі будуць мець магчымасьць абмяняцца ўласным досьведам і ідэямі.

Курсы маюць адбыцца з 21 лютага па 18 сакавіка і зь 19 па 23 верасьня 2005 году ў местах Лунд (Швэцыя) і Белград (Сэрбія і Чарнагорыя). Заняткі будуць праводзіцца ў ангельскай мове.

Прадстаўнікі беларускіх НГА ў ліку іншых краін таксама могуць падаваць свае заявы.

SIDA пакрывае ўсе кошты, зьвязаныя з пражываньнем, харчаваньнем і ўдзелам, а таксама транспартныя выдаткі ў абодва бакі. Удзельнікі павінны самастойна пакрыць кошты, зьвязаныя з візай.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць на вэб-пляцоўцы: www.rwi.lu.se/index.shtml.

**Падрыхтавала Алеся БЯЛЕНІК**

## Жыццё працягваецца

**Зборнік вершаў дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў мае пабачыць сьвет у хуткім часе.**

Меркаваны фармат – А5, аб'ём – 300 старонак. Пасьля выданьня будуць адбывацца прэзэнтацыі з запрашэньнем і дастаўкай на прэзэнтацыю аўтараў.

З ініцыятывай выданьня зборніка выступілі Навагрудзкае рэгіянальнае аддзяленьне МГА "Задзіночаньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", Навагрудзкае раённае аддзяленьне ГА "Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам" і Дабрачынная фундацыя дапамогі дзецям "Міласэрнасьць" зь Берасьця.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць, зьвярнуўшыся па наступных кантактах:

тэл.: (01597) 3-22-43 (Алесь Царук)

e-mail: dialog2004@mail15.com, shureek2000@mail.ru.

**Падрыхтаваў Валера РУСЕЛІК**



## Бараніцца разам

**Асамблея НГА аднаўляе праграму прававой падтрымкі няўрадавых арганізацыяў у межах Сыстэмы калектыўнай абароны НГА.**

Прадугледжваецца праца сеткі юрыстаў дзеля кансультаваньня няўрадавых арганізацыяў па прававых аспэктах іх дзейнасьці.

З пытаньнямі па калектыўнай абароне няўрадавых арганізацыяў да па кансультацыі і дапамогу зьвяртайцеся:

*Каардынатар Сыстэмы калектыўнай абароны – Юры Чавусаў (Выканаўчае бюро Асамблеі НГА, тэл.: (029) 6414347; e-mail: ngo@belngoinfo), Андрэй Кусяльчук (каардынатар па Гарадзеншчыне, тэл.: (029) 7674490; e-mail: kusialchuk@yahoo.com).*

**Падрыхтавала Алеся БЯЛЕНІК**

## Адукацыйныя праграмы

**Акадэмія міжнароднай адукацыі і дасьледаваньняў і Культурна-інфармацыйная ўстанова "Міжнародны дыялёг" абвяшчаюць адкрыты спабор на ўдзел у акадэмічных праграмах Дзяржзэпартамэнта ЗША:**

Эўразійская праграма студэнцкага абмену – навучаньне на працягу аднаго акадэмічнага году ўва ўнівэрсытэтах і каледжах ЗША. Да ўдзелу ў спаборы запрашаюцца студэнты 1-3 курсаў ВНУ дзённай формы навучаньня ў веку да 21 году, актыўныя, мэтанакіраваныя. Абавязковая ўмова – валоданьне ангельскай мовай.

Праграма стыпэндыяў Эдмунда Маскі – атрыманьне ступені магістра ўва ўнівэрсытэтах ЗША, тэрмін навучаньня – 1-2 гады. Да ўдзелу ў спаборы запрашаюцца спэцыялісты з вышэйшай адукацыяй, якія валодаюць акадэмічным і лідэрскім патэнцыялам, а таксама ангельскай мовай.

За дадатковай інфармацыяй зьвяртацца:

"Міжнародны дыялёг"
вул. Сурганава, 28А-104
Менск
тэл.: (017) 285-71-72, (029) 756-46-98
e-mail: info@internationaldialogue.org
www.internationaldialogue.by.

**Падрыхтаваў Валера РУСЕЛІК**

## Праграма "Сацыяльная дапамога сем'ям і дзецям"

**Дзяржзэпартамэнт ЗША і Амбасада ЗША ў Рэспубліцы Беларусь абвяшчаюць спабор на ўдзел у прафэсійнай стажыроўцы па праграме "Community Connections Youth and Family Issues".**

Да ўдзелу ў праграме запрашаюцца:

- кіраўнікі дзяржаўных і грамадзкіх арганізацыяў, якія займаюцца прадстаўленьнем сацыяльнай дапамогі сем'ям і дзецям у Рэспубліцы Беларусь;
- прадстаўнікі дзяржаўных устноваў, адказныя за распрацоўку і ўкараненьне праграм па разьвіцьцю маладзёвых ініцыятываў і аховы здароўя;
- спэцыялісты сфэры аховы здароўя, якія актыўна займаюцца пытаньнямі здароўя дзяцей і моладзі (прапаганда здаровага ладу жыцьця, асьвета па пытаньнях алькагольнай, тытунёвай і наркатычнай залежнасьці і г.д.);
- настаўнікі сярэдніх школ, адказныя за арганізацыю пазашкольнай працы, а таксама работнікі школ-інтэрнатаў, дзіцячых дамоў і спэцыялісты па працы зь непаўнагадовымі праваправарушальнікамі;
- сацыяльныя пэдагогі, псыхолягі і прадстаўнікі сацыяльных цэнтраў для моладзі й сям'і.

Пераможцы спабору атрымаюць магчымасьць на працягу 4-х тыдняў прайсьці стажыроўку ў ЗША. Падчас стажыроўкі фіналісты змогуць пазнаёміцца з працай сацыяльных цэнтраў, маладзёвых арганізацыяў, сустрэцца з спэцыялістамі, якія займаюцца праблемамі дзяцей, моладзі й сем'яў; узяць удзел у сэмінарах (тэмы сэмінараў: удзел маладых людзей у жыцьці свайго раёну, прапаганда здаровага ладу жыцьця, фармаваньне каштоўнасьцяў у моладзі, разьвіцьцё маладзёвых праграм).

Валоданьне ангельскай мовай не патрабуецца. Выдаткі, зьвязаныя з праходжаньнем стажыроўкі, бяруць на сябе арганізатары. Праграма забясьпечвае аплату праезду да месца стажыроўкі й назад, пражываньне ў амэрыканскіх сем'ях, паслугі перакладніка, выдаткі на набыцьцё спэцыялізаванай літаратуры, стыпэндыю на штодзённыя выдаткі і частковую мэдычную страхоўку.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Ірыны Хвашчэўскай:

Senior IEPA
Community Connections Program
Public Affairs Section
US Embassy
тэл.: (017) 217-04-81, (0296) 41-64-11.
e-mail: khvashchevskayaIG@state.gov.

**Лана РУДНІК**

# Увага! Гаворыць трэці сэктар!

**Кожная падзея пакідае ў нашай памяці свой сьлед. Звычайна пра гэта ўзгадваецца, калі спрабуеш падвесьці вынікі чагосьці. А канец году – гэта нагода ня толькі падвесьці вынікі і зрабіць для сябе нейкія высновы, але й павіншаваць адзін аднаго ды зазычыць нешта ад шчырага сэрца на наступны год.**

**Таму гэтым разам мы зьвярнуліся да нашых сяброў і калегаў з наступнымі пытаньнямі:**

***1. Чым быў адметны гэты год для Вас і Вашай арганізацыі?***

***2. Вашыя віншаваньні й зычэньні ўсяму беларускаму трэцяму сэктару?***



**Алена РАЎБЕЦКАЯ, рэдактарка газэты "Биржа информации" (Гародня):**

1. Самае адметнае – выбары і зьвязаная зь імі перадвыбарная сытуацыя. Таксама мы набылі чытачоў, якія перасталі баяцца й пачалі дасылаць нам не ананімныя, а падпісаныя лісты з падтрымкай. Сярод гэтых людзей назіраецца вялікая салідарнасьць у падтрымцы нашай газэты. Таму самае галоўнае з таго, што мы набылі і адчулі, – гэта вялікая аддача.

2. Я хачу, каб трэці сэктар стаў вялікай значнай сілай і каб грамадзтва магло сябе абараняць. Трэба, каб грамадзкія арганізацыі ўяўлялі сабой моцны кулак: трэба, дык будзем біцца!



**Андрэй ШАНТАРОВІЧ, рэдактар газэты "Местная газета" (Ваўкавыск):**

1. Прынынілі дзейнасьць газэты. Потым – галадоўка. Зараз я не магу знайсьці ніводнай друкарні, якая бы надрукавала маю газэту.

2. Па-першае, трэба гуртавацца й задзіночвацца – тады нешта атрымаецца. Па-другое, трэба пачынаць актыўна дзейнічаць, а не інтэлігентна сядзець і чакаць.



**Тэльман МАСЬЛЮКОЎ, старшыня філіі ГА "Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны" (Сьветлагорск):**

1. Самае важнае ў гэтым годзе – тое, што я ўпершыню пабываў у Гародні (пра што даўно марыў). Ад сустрэчы зь месьтам засталіся самыя прыемныя ўражаньні.

2. Аптымізму, упэўненасьці ў сваіх сілах, бадзёрасьці і дасягненьня сваёй галоўнай мэты – пабудовы моцнай, дэмакратычнай і заможнай Беларусі.



**Вадзім ВІЛЕЙТА, Віленскі аб'яднаны цэнтар беларускіх ініцыятываў (Вільня):**

1. Гэты год стаўся для нашае арганізацыі годам значным і вельмі пасьпяховым. Спадзяюся, аднак, што асноўная сёлетняя падзея яшчэ адбудзецца. Гаворка ідзе пра афіцыйную рэгістрацыю. Ідэя актыўнейшай супрацы між Беларусьсю й Летувой у Вільні карыстаецца падтрымкай. Але ўсё-ткі адшукаць людзей, гатовых сур'ёзна працаваць у гэтым кірунку і ўвайсьці ў склад арганізацыі, якая ставіць за мэту супрацу зь беларусамі, – на гэта мне спатрэбіўся не адзін год. Але зараз арганізацыя існуе і ўжо дзейнічае: выпускаем кнігу пра Беларусь па-летувіску, робім даклады на разнастайных канфэрэнцыях, пасярэднічаем ува ўсялякіх беларуска-летувіскіх дачыненьнях. Застаецца дачакацца, калі зможам афіцыйна адзначыць народзіны ды перайсьці на шырэйшую дзейнасьць. Усе дакуманты даўно падрыхтаваныя, трэба толькі падаць. Ня тое каб вельмі шмат высілкаў патрабавала гэтая рэгістрацыя – зусім не, проста пакуль што ў нас хапае дзейнасьці і ў неафіцыйным статусе. У Летуве ніхто не бароніць дзейнічаць і працаваць ад імя незарэгістраванай арганізацыі...

Ну а з тых падзеяў, што ўжо адбыліся, на найбольш значных залічыў бы запанаваньне беларускамоўнасьці ў нашай арганізацыі. Высьветлілася, што сябры, якія раней прадстаўляліся "палякамі" ці "расейцамі" (гэткія становяць добрую палову арганізацыі, як і ўсіх віленчукоў), зусім няблага кемяць "па-тутэйшаму". Гэтак і вынайшаў я сваю маленькую Беларусь. У Вільні. :)

2. Трэці сэктар Беларусі заслугоўвае найшчырэйшых віншаваньняў і вялікае пашаны. У беларускіх умовах актыўна праяўляць сваю пазыцыю, дбаць пра дабрабыт і сьвядомасьць, самастойнасьць, самадастатковасьць і аўтаномнасьць грамадзтва – гэта Учынак зь вялікай літары. А гэткі Учынак беларуская грамадзянская супольнасьць зьдзяйсняе штодня – трывала і ўпэўнена. Упэўнены, што ўрэшце гэта выйдзе на карысьць беларускім трэцясэктараўцам – іх кампэтэнцыі, устойлівасьці, прафэсіяналізму, выдатнаму нават у эўрапейскіх мерках. Зычу не спыняць шлях да самаўдасканальваньня ды ўдасканальваньня нашага грамадзтва. А таксама не адгароджвацца ад астатняй часткі грамадзтва, якая, безумоўна, можа стацца добрым рэсурсам да ўзмацненьня актыўнай супольнасьці. Тады, глядзіш, і самім лягчэй працаваць будзе, і больш асэнсаванасьці ў намаганьнях зьявіцца...

Зь сьвятамі!



**Аліна СУРАВЕЦ, старшыня раённай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (Смаргоні):**

1. Год быў вельмі напружаным і для арганізацыі, і асабіста для мяне. Шмат часу было страчана на адстойваньне сваіх правоў – журналісткі, грамадзянкі, асобы; на права існаваньня незалежнага выданьня, на судовыя разборы і тлумачэньні, здавалася б, гэткіх простых і зразумелых рэчаў, але ж... Крыўдна на ўсё гэта траціць час і сілы.

Прыемнай падзеяй году можна лічыць акцыю "Дарослыя – дзецям", якую філія арганізавала да Дня абароны дзяцей для гадаванцаў мясцовага прытулку і да ўдзелу ў якой была прыцягнутая грамадзкасьць: і прадпрымальнікі, дзеці й настаўнікі, простыя жыхары. Гэта была акцыя міласэрнасьці і шчырая справа, якая пакінула добры ўспамін і маральнае задавальненьне.

А асабістая радасць – дачка скончыла школу й зараз набывае веды ўва ўнівэрсытэце.

2. Не марнець і не чакаць лепшых часоў, а шпарчэй варушыцца. Імкнуцца да маяка замест таго, каб цягацца за блукаючымі агеньчыкамі.

Хай і надалей усім нам стае розуму, аддана й варта працаваць на карысьць грамадзтва нават у самых няспрыяльных умовах.



**Вера КУНЦЭВІЧ, кіраўніца хору «Бацькаўшчына»:**

1. Па-першае, запісалі дыск песьняў хору "Бацькаўшчына". Падрыхтавалі прыкладна палову калядшай праграмы ды яшчэ 6 новых твораў. Па-другое, увесну мы ездзілі ў Польшчу ўва Уроцлаў і Познань. Нас запрасіла першая духоўная сэмінарыя зь места Обра Познаньскага ваяводзтва на міжнародную канфэрэнцыю па пытаньнях задзіночаньня рэлігіі. Творы гучалі па-беларуску, хор "Бацькаўшчына" меў вялікі посьпех. Па-трэцяе, мы ўзялі ўдзел у X Міжнародным рэлігійным фэсьце "Вервиця" грэка-каталіцкіх вернікаў ува ўкраінскім месьце Бучач Тэрнопальскай вобласьці.

У мяне асабіста адбылася вялікая радасьць: 20 красавіка нарадзіўся ўнук Ягор. Ну, і 22 траўня ў мяне быў юбілей 50 гадоў.

2. Я Вас вельмі люблю. Зычу шчырасьці, моцы, разуменьня, падтрымкі. А яшчэ – множыцца, трываць і проста БЫЦЬ!



**Ірына ФРЭНКЕЛЬ, сябра філіі ГА "Беларуская асацыяцыя маладых хрысьціянскіх жанчын" (Смаргоні):**

1. Сёлета мы дапрацавалі праект "Павышэньне канкурэнтаздольнасьці жанчын на рынку працы ў Смаргонях". Таксама ўдзельнічалі ў розных трэнінгах, сэмінарах, школах. Зараз распрацоўваем буклеты арганізацыі і будзем надалей удзельнічаць у мескіх справах, наколькі толькі здолеем.

2. Зычу не губляць упэўненасьці ў заўтрашнім дні, ня ставіць віртуальных мэтаў, а рабіць рэальныя справы. І галоўнае – каб было разуменьне, мір і моцная сувязь паміж арганізацыямі Беларусі.



**Мікола ТАРАНДА, старшыня ГА "Паходня" (Гародня):**

1. Дзейнасьць "Паходні" ў 2004 годзе была практычна паралюшаваная. Думаю, што гэта было зьвязана з парлямэнцкімі выбарамі і рэфэрэндумам. Улады настолькі баяліся, каб мы не змаглі сустрэцца да паразмаўляць, што прыдумалі непераадольныя перашкоды: трэба загадзя прадставіць плян працы на год наперад, што зрабіць вельмі цяжка, паколькі складана прадугледзець, каго і калі запрасіць на сустрэчу і ці запрошаны чалавек будзе мець вольны час менавіта ў дзень, абраны год таму. Але і гэта ня ўсё. За два тыдні трэба накіраваць у гарвыканкам дадатковы ліст на імя мэра места з просьбай пра дазвол на правядзеньне імпрэзы.

Таму на працягу году мы ўдзельнічалі ў тых мерапрыемствах, якія праводзілі іншыя арганізацыі трэцяга сектару. Спадзяюся, што плян на 2005 год мы ўсё-ткі падрыхтуем і паглядзім, ці засталіся ў Беларусі яшчэ якія рэшткі дэмакратыі.

2. Зычу посьпехаў у дзейнасьці і адзінства, нягледзячы на ўсе складанасьці й перашкоды, якія, спадзяюся, хутка зьнікнуць.

**Апытвалі**
**Волька АСТРОЎСКАЯ**
**і Алеся БЯЛЕНІК**







*Нашага самавітага*
*й няўлоўнага*
***Юру Тарасевіча***
*з днём народзінаў*




Віншуем





*Нашага*
*таямнічага*
*і ўсюдыіснага*
***Андрэя Мялешку***
*з днём народзінаў*

# Дзякуй, сябры!

**Сябры грамадзкага аб'яднаньня "Цэнтр "Трэці сектар" выказваюць шчырую падзяку й сардэчныя віншаваньні сваім партнэрам у 2004 годзе:**

- сябрам грамадзкіх аб'яднаньняў "ВІТ" (Гародня), "Таварыства беларускай школы" (Гародня), "Мадэм" (Гародня), "Паходня" (Гародня), "Маладая Грамада" (Гародня), "Саюз палякаў у Беларусі" (Гародня), "Беларуская асацыяцыі журналістаў" (філіі ў Гародні і Смаргонях), "Аб'яднаны шлях" (Менск), "Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" (раённае аддзяленьне, Масты), "Хрысьціянскае сяброўства дарослых і маладых" (Ліда), "Таварыства беларускай мовы" (Ліда), "Нямецка-Расейскі абмен" (Бэрлін, Нямеччына), "ОПУС" (Лодзь, Польшча), "Экаклюбэс" (Барсэлёна, Гішпанія), "АХАЛАР" (Чарнігаў, Украіна), "Аб'яднаны цэнтар беларускіх ініцыятываў у Вільні" (Вільня, Летува);

- супрацоўнікам Выканаўчага бюро Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі;

- супрацоўнікам рэдакцыяў газэт "Биржа информации", "Газета Слонімская", "Местная газета", "Głos znad Niemna";

- супрацоўнікам консуляту Польшчы ў Гародні;

- а таксама ўсім іншым нашым партнэрам, ахвярадаўцам, аўтарам і чытачам "ТС" ды іншым добрым людзям, якія дапамагалі нам сёлета справамі ды парадамі!

**БУДЗЬМА РАЗАМ**
**І НАДАЛЕЙ!**